# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 34 (195), 13 — 19 ВЕРАСНЯ 1995 ГОДА. КОШТ 1000 РУБЛЁЎ



"ПАЕХАЛІ!" — ПРЭМ'ЕРА Ў КУПАЛАЎСКІМ ТЭАТРЫ • стар. 6

УСЛЕД ЗА СКАРЫНАМ • стар. 7

НЕЎМІРУЧАСЦЬ ГРАФА ПРУШЫНСКАГА? • стар. 8


# МАСТАЦТВА БЕЛАГА І ЧОРНАГА

*Чым перш за ўсё прыцягвае да сябе ўвагу перыядычнае выданне? Канешне — сваім афармленнем. І калі афармленне ўдалае і разумна стасуецца з асноўнай накіраванасцю выдання, то апошняе хутка набывае аўтарытэт сярод чытачоў. На жаль, многія з новых выданняў не могуць пахваліцца выдавецкай культурай, часта іх вёрстка адбываецца без удзелу мастацкага рэдактара, а там, дзе дэфіцыт мастацкага афармлення, як правіла — яшчэ больш дэфіцыт сэнсавай напоўненасці. Зрэшты, не аб гэтым пойдзе гаворка. Гаворка пойдзе аб сапраўдным прафесіянале, які плённа працуе ў адным з новых, але ўжо добра знаёмым чытачам выданні.*

*Чытачы штотыднёвіка "Свободные новости-плюс" не могуць не адзначыць своеасаблівасць яго выгляду. Алег КАРПОВІЧ — мастацкі рэдактар гэтага выдання — працуе тут усяго адзін год, але за гэты час штотыднёвік набыў вельмі адметнае і выразнае аблічча дзякуючы прадуманаму і разумнаму афармленню. Творчасць мастака-графіка, які працуе ў газеце, у многім супадае з творчасцю журналіста, які піша для гэтай газеты.*


*(Заканчэнне на стар. 3)*


















СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

# "ПЕСНЯЙ ВІТАЮ Я ВАС!"

Дзень ведаў, які адзначаецца штогод першага верасня, многія маладыя мінчане адзначылі сёлета на адной з самых прыгожых плошчаў нашага горада — плошчы Якуба Коласа.

Тут праходзіла традыцыйнае свята "Песняй вітаю я вас!", прысвечанае Песняру. Апошнім часам гэтая ўрачыстасць прымяркоўваецца да Дня ведаў і да Дня беларускага пісьменства і друку.

Чаму менавіта сюды прывялі настаўнікі ў гэтую вераснёўскую раніцу сваіх вучняў? На гэтае пытанне адказала ў сваім выступленні на свяце дырэктар Літаратурнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская:



— Коласа мы ведаем як паэта і празаіка, але не трэба забываць, што гэта яшчэ і настаўнік, і не просты, а з вялікай літары. Уклад гэтага чалавека ў развіццё нацыянальнай педагогікі ніколькі не меншы, чым у айчынную літаратуру.

Яшчэ дзеці даведаліся, што Колас быў стваральнікам падручніка для чытання для малодшых школьнікаў — гэтая кніга называлася "Другое чытанне для дзяцей беларусаў", па ёй вучыліся папярэднікі сённяшніх першаклашак, як любіць і шанаваць нашу Айчыну — Беларусь, сваю мову, сваю прыроду і свой народ.

Са шчырымі словамі прывітання да вучняў звярнулася дацэнт Белдзяржуніверсітэта, заслужаны работнік вышэйшай школы Вольга Казлова. Яна, у прыватнасці, адзначыла, што сённяшнія вучні павінны браць прыклад з герояў твораў Коласа, бо яны для нас, сённяшніх, узор служэння інтарэсам сваёй Бацькаўшчыны, свайму народу.

Віталі прысутных намеснік міністра культуры і друку Уладзімір Гілеп, а таксама нашы пісьменнікі — Уладзімір Паўлаў, Алесь Савіцкі, Яўген Хвалей, Уладзімір Карызна. Акрамя "напутственных речей" перад наступным навучальным годам дзеці пачулі пранікнёныя вершаваныя радкі, скіраваныя да сэрцаў чужых людзей.

Павесялілі ўсіх на плошчы ўдзельнікі фальклорнага ансамбля "Жалейка" падлеткавага клуба "Калейдаскоп" Аб'яднання вылічальнай тэхнікі. Народныя песні і танцы ў іх выкананні як найлепш падкрэслівалі святочнасць абстаноўкі, настройвалі на ўзнёсла-патрыятычны лад.

Хочацца думаць, што тыя, хто пабываў першага верасня на Плошчы Якуба Коласа, пранясуць у сваіх сэрцах любоў да мастацкага слова, шчырую ўдзячнасць тым, хто стварае літаратуру — нашым пісьменнікам.

Напрыканцы застаецца дадаць, што арганізатарамі мерапрыемства былі Літаратурны музей Якуба Коласа і аддзел культуры Савецкага раёна сталіцы.

Стваральнікі, удзельнікі і госці свята пакідалі плошчу Песняра з надзеяй ізноў сустрэцца праз год — 1 верасня.

**Ганна ЗАЙЦАВА**

*На здымку: дырэктар Літаратурнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская.*

**Фота**

# ПАДЗЕННЕ АНЁЛА

30 жніўня ў касцёле святых Алены і Сымона, што на плошчы Незалежнасці, напрыканцы вячэрняга набажэнства вернікі былі запрошаны на прэм'еру духоўнага спектакля "Маленькі анёлак". Аўтар п'есы — драматург і перакладчык Сяргей Кавалёў. Пастаўлены спектакль Беларускім нацыянальным тэатрам аднаго акцёра "Зніч". Рэжысёр — Галіна Дзягілева, выканаўца — Раіса Астрадзіева.

Стваральнікі спектакля былі вельмі ўсцешаны, што праект удалося прадставіць у старажытных мурах касцёла, была выказана шчырая падзяка айцу Уладзіславу за дапамогу. Тэкст п'есы быў зроблены паводле вершаў Кармэн Барнос дэ Гаштольд са зборніка "Малітвы з Ноева каўчэга" і "Хорам жывёлаў".

Маленькі анёл, які атрымаў тэкставую плоць у п'есе і метафарычна канкрэтную ў вобразе актрысы, паводле сюжэта, нядаўна нарадзіўся і не мае вопыту, не мае праграмы дзеянняў. Ён баіцца выконваць сваю прамую функцыю — быць ахоўнікам людзей ці канкрэтнага чалавека і абмяжоўваецца магчымасцю дапамагчы пэўнай канкрэтнай "забытай" жывёле. Ён шукае істоту, якой асабліва патрэбны анёл-ахоўнік, звяртаецца да розных герояў з просьбай памаліцца праз яго да Бога. Кожная жывёла ўвасабляе тып паводзінаў, стыль жыцця. Праз выкшталцоную пластыку, дакладнае валоданне прадметамі (парасоны, стужкі і інш.), дзякуючы вакальным здольнасцям актрысе ўдаецца паказаць вобразы герояў яшчэ да прамога называння. Анёл размаўляе з жаўруком, пеўнем, парсюком, сабакам, блыхой, мышкай, іншымі істотамі, і кожнае пераўвасабленне агаляе пікавае пачуццё, якое архітыпова звязваецца з тым ці іншым носьбітам.

Кармічнай эвалюцыі героя не адбываецца. Нягледзячы на разнастайнасць рухаў, мімікі, голасу, святла, музыкі, амаль на працягу ўсяго спектакля ў героя Астрадзіевай адчуваецца нязменны стрыжань. Ён бы крышталь, які змяняе промні святла, робіць іх зрокава артыкуляванымі. Сінтэз у адной асобе анёл-жывёла праяўляе жыццёвыя праграмы, якія нельга змяніць. У жыцці, якое функцыянуе па зададзенай схеме, дапамога анёла нікому не патрэбна. Паводле сюжэта, герой нарэшце знаходзіць істоту, якую трэба ратаваць — марскую зорку, якой наканавана існаваць у чорных сутоннях акіяна, робіць адзіны канкрэтны ўчынак — падымае яе ў неба. Спектакль абрываецца трагічным маналогам зоркі, які гледачом успрымаецца як адлюстраванне псіхалагічнага стану анёла, які толькі што знайшоў для сябе выратавальную формулу "дапамагаць усім". Пераход анёла ад этычнай абстракцыі да канкрэтнага персанальнага гора ў кантэксце спектакля робіцца матываваным.

**Алесь ТУРОВІЧ**

# КОМПАС КУЛЬТУРЫ

- **4 верасня** завяршыў сваю работу Другі міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры, галоўным арганізатарам якога выступаў Беларускі ПЭН-цэнтр. Вынікам работы стаў шэраг дакументаў па праблемах узаемаадносінаў паміж асобай і дзяржавай, па пытаннях свабоды і адказнасці сродкаў масавай інфармацыі, заява ўдзельнікаў пра майскі рэферэндум, што праходзіў на Беларусі, рашэнне аб стварэнні ў нас Хельсінкскага камітэта, рэзалюцыя ў сувязі з 56-й гадавінай пачатку Другой сусветнай вайны. Вырашана стварыць прэмію Францішка Багушэвіча. Вызначаны лаўрэаты прэміі імя Алеся Адамовіча. Імі сталі Анатоль Казловіч, Павел Шарамет, Віталь Цыганкоў і Валянцін Жданко. У намінацыі кінапубліцыстыкі адзначаны аўтары дакументальнага фільма "Чорны шлях" Самсон Палякоў і Анатоль Алай.
- **7 верасня** ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адкрылася выстава твораў вядомага беларускага жывапісца Мікалая Залознага. Яна прымеркавана да 70-годдзя з дня народзінаў майстра.
- **8 верасня** ў музеі адбыўся вернісаж "ад рамантызму да мадэрнізму. Жывапіс XIX—XX стагоддзяў" са збору славацкай Нітрыянскай дзяржаўнай галерэі. Гэта сумесны праект міністэрстваў культуры Славакіі і Беларусі.
- **14 верасня** ў Беларускім паэтычным тэатры аднаго акцёра "Зніч" адбудзецца прэм'ера спектакля "Выгнанне ў рай".
- **15 — 16 верасня** ўдзельнікі літаратурнага руху "Бум-Бам-Літ", сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі, прадстаўнікі "Таварыства Вольных Літаратараў" ладзяць фестываль "Лепельскія алітэрацыі", што на Віцебшчыне. У праграме сустрэч мае адбыцца "круглы стол" па праблемах сучаснай беларускай літаратуры, літаратурна-музычная праграма.
- **16 верасня** фірма "Клубны стыль" мяркуе правесці творчы вечар лідэра групы "Аўкцыён" Алега Гаркушы. Сустрэча з вядомым выканаўцам адбудзецца ў кафэ мінскага трактарнага завода "Время".
  **29 верасня** фірма "Клубны стыль" адкрывае ў кінатэатры "Піянер" першы на Беларусі рэгей-клуб.
- **З 17 па 22 верасня** ў Мінску пройдуць Дні культуры нямецкай зямлі Шлезвіг-Гальштэйн, якія наладжваюцца па ініцыятыве Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі. Летась Таварыства праводзіла Дні культуры Рэспублікі Беларусь у горадзе Кілі. У складзе афіцыйнай дэлегацыі міністр юстыцыі Клаус Клінгнер і прадстаўнікі зямельнага таварыства дружбы "Захад-Усход". У Доме дружбы таварыства мае адбыцца выстава акварэляў нямецкай мастачкі Хільке Бергеман, штодзённыя лекцыі на тэму "Залежнасць нацыянальных культур ад існуючых дзяржаўных форм".
  **21 верасня** ў камернай зале Белдзяржфілармоніі адбудзецца святочны канцэрт, у якім возьмуць удзел вядомы нямецкі арганіст Гельмут Герман і ансамбль ветэранаў флоту "Сіла ветру — дзесяць балаў".
- **З 17 па 24 верасня** ў галандскім горадзе Эйдэнховен адбудзецца традыцыйны штогадовы фестываль "Тыдзень міру". Група "Беларускі клімат" атрымала запрашэнне прыняць удзел. Акрамя таго, арганізатар фестывалю фабрыка мастацтваў "Шостая калона" плануе арганізаваць для групы міні-турнэ па чатырох гарадах Галандыі.

# БЕЛАРУСКІ ТЭАТР ЗАВАЁЎВАЕ СВЕТ

На першым міжнародным эдынбургскім тэатральным фестывалі беларускае мастацтва было прадстаўлена трыма тэатрамі: "Дзе-Я?", "Альтэрнатыўны" і "Вольная сцэна". Мяркуючы па ацэнках англійскай крытыкі, нашы артысты ўразілі замежнага гледача сваім майстэрствам і прафесійнасцю. Так, спектакль "Чорт і баба", які быў паказаны тэатрам "Дзе-Я?", атрымаў чатыры зоркі. Вышэйшую ўзнагароду — пяць зорак — атрымаў спектакль "Рычард III" Уільяма Шэкспіра ў сцэнічнай рэдакцыі Аляксея Дударава. Пастаноўку спектакля здзейсніў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, заслужаны дзеяч мастацтваў Валеры Анісенка.

На думку пастаноўшчыка, ігру акцёраў можна назваць феерычнай. Так у папулярнай газеце "Сандзі Таймс" і іншых не менш вядомых перыядычных выданнях вядомыя тэатральныя крытыкі высока ацанілі віртуознае выкананне найскладанейшай шэкспіраўскай трагедыі. І трэба ўлічваць, што на радзіме Шэкспіра гледачы вельмі патрабавальна адносяцца да інтэрпрэтацый п'ес земляка.

Прэзідэнт Еўрапейскага фонду мастацтваў, арганізатар фестывалю Рычард Дэмарка, па словах Валерыя Анісенка, назваў ігру маладой трупы "Вольнай сцэны" сапраўднай з'явай фестывалю. "Вы зрабілі больш, чым усе палітыкі разам узятыя. Вы адкрылі свету тэатральную Беларусь. Вы павінны выступіць і ў каралеўскім тэатры, каб навучыць англійскіх акцёраў, як трэба іграць Шэкспіра",— такія былі словы Рычарда Дэмарка на сустрэчы з беларускімі акцёрамі. "Я зраблю ўсё, каб Прэзідэнт і кіраўніцтва Беларусі даведаліся пра вялікі поспех вашага тэатра. Я ўдзячны ім за ўдзел беларускіх артыстаў, таму што іх ігра падняла фестываль на якасна новую ступень",— падкрэсліў прэзідэнт Еўрапейскага фонду мастацтваў напрыканцы сустрэчы.

Алега Гарбуза, выканаўцу ролі Рычарда, крытык вядучай шатландскай газеты "Скотсмэн" Марыо Рыліч паставіў у адзін шэраг з такімі вядомымі англійскімі акцёрамі, як Лоўрэнс Аліўе, Ален Шэр.

І можна зразумець прафесійны гонар і творчую радасць рэжысёра-пастаноўшчыка спектакля з нагоды запрашэння паставіць яшчэ адну трагедыю Шэкспіра — "Макбет" у сапраўдных дэкарацыях гістарычнай архітэктуры старажытнай Шатландыі — у Старым замку на востраве пад Эдынбургам. А тэатр "Вольная сцэна", у сваю чаргу, запрошаны на фестываль у Іспанію і на гастролі па Вялікабрытаніі. Артысты атрымалі і запрашэнне вядомага тэатральнага дзеяча, прафесара Оксфардскага ўніверсітэта Майкла Гірэн-Тоша прыехаць у Оксфард для падрыхтоўкі англійскага варыянта спектакля "Рычард III", каб ажыццявіць турнэ вакол свету.

**Вольга ШЧАДРЫНА**



Добрую памяць захоўваюць у далёкай палескай вёсцы Лісіна, што ў Ганцавіцкім раёне, пра народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. У мясцовай школе чатырнаццаты год працуе коласаўскі музей, які наведала за гэтыя гады больш за 50 тысяч турыстаў. Акрамя беларусаў, тут былі госці з Расіі і Амерыкі, палякі, немцы, азербайджанцы, кіргізы... Удала падабраны матэрыял распавядае аб тым, як Якуб Колас настаўнічаў тут у 1902 — 1904 гадах. Сабрана больш за дзвесце экспанатаў побыту таго часу, якія добра дапаўняюць асноўную экспазіцыю.

*На здымку: вучаніца другога класа Оля МЕЛЕХАВЕЦ у "Хаце палешука" — так называецца адзін з раздзелаў музея.*

**Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ**

# ПАЧАТАК "ПЕРШАЦВЕТАЎСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ"

Выданне кнігі па сённяшнім часе — справа выключная. Грошы (дакладней — іх нястача) ціснуць так, што ўжо і моладзь літаратурная не спадзяецца на шанц займець хаця б адзін уласны зборнічак.

Часопіс "Першацвет" са жнівеньскага сёлетняга нумара распачаў унікальную традыцыю. Пад той жа часопіснай вокладкай да чытача прыйшла і кніга — кніга вершаў Міколы Сазонава "Нараджэнне цішыні". Упершыню разам сабрана спадчына маладога беларускага паэта, які загінуў ад рукі п'янага злачынцы на далёкай Поўначы. Істотна дапаўняе паэзію Міколы Сазонава і ягоная эпісталярыя — лісты з Якуціі, адрасаваныя журналістцы Алене Ціхановіч.

**Кастусь СЕМЯНОВІЧ**

У Івянецкім музеі адкрылася выстава твораў народнага майстра, сябра Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці, кавалера Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга, уладальніка срэбнага медаля ВДНГ СССР, патомнага ганчара Антона Вікенцевіча Пракаповіча, прысвечаная 60-годдзю з дня нараджэння.

У экспазіцыі прадстаўлены вырабы майстра, зробленыя па заказе музея: збанкі, гладышы, церніцы, гаршкі, спарышы, траякі, глякі, слаі, вазы, міскі, падсвечнікі, наборы для напояў.

Традыцыйны па форме бытавы посуд выкананы віртуозна, дэкаратыўнае аздабленне вырабаў нагадвае філігрань ювеліраў. У творах майстра акумулююцца найлепшыя здабыткі спрадвечнай Івянецкай школы керамікі.

Свеціцца, зіхаціць, пераліваецца мноствам сонцаў цудоўная Івянецкая фляндроўка, зачароўвае фарбамі роднага краю, выпраменьваючы святло душы майстра.

**Алег РАМАНОЎСКІ**

Івянец

ТВОРЧАЯ КУХНЯ

# МАСТАЦТВА БЕЛАГА І ЧОРНАГА

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Яны толькі карыстаюцца рознымі сродкамі выразнасці: журналіст — словам, мастак — малюнкам. І часта адзін трапны і змястоўны малюнак можа сказаць значна больш, чым цэлая паласа слоўнай эквілібрыстыкі. Дарэчы, у гэтай газеце стаўленне і ступень патрабавальнасці да мастацкага рэдактара такія ж, як і да вядучых журналістаў — сумеснымі намаганнямі даводзіць да чытачоў сутнасць падзей, што адбываюцца ў грамадстве.

Працуючы над нумарам, Алег Карповіч імкнецца ўсе яго старонкі звязаць адной мастацкай ідэяй. І гэта выразна бачна ў кожным чарговым нумары, калі сродкамі газетнай графікі — праз вынаскі і застаўкі кожнай паласы — умела развіваецца тэма нумара, галоўная заяўка якой зроблена вострашаржыраваным малюнкам, размешчаным на першай паласе.

Скажам шчыра — не ў кожнай газеце творчасць мастацкага рэдактара праяўляецца так акрэслена. Часцей у працэсе стварэння газеты мастаку адводзіцца дапаможная роля. Акрамя таго, як ужо адзначалася, у шэрагу новых газет макеты распрацоўваюцца наогул без удзелу мастака. Камп'ютэрная вёрстка дае новыя магчымасці для выяўлення творчай задумы, але яна не замяняе саму творчасць, як гэта некаторым здаецца. І калі за справу макетавання і вёрсткі бярэцца чалавек без мастацкай адукацыі, то ён здольны ажыццявіць толькі тэхнічны бок гэтай справы. Ніякі камп'ютэр не выдасць мастацкую ідэю, якая нараджаецца з творчай фантазіі мастака пры дапамозе звычайнага алоўка.

Што нельга не заўважыць, гэта смеласць, а часам нават і дзёрзкасць сатырычных метафар Алега Карповіча і, галоўнае, іх надзённасць. Гэта не проста сатыра ці шарж, гэта пэўны дакументалізм.

Відавочна, што творчая фантазія Алега не ўмяшчаецца ў вузкія рамкі газетнай паласы, у яго ёсць вельмі шмат графічных работ, якія чытачы ніколі не бачылі. Таму і ўзнікла задума арганізаваць выставу сатырычнай графікі, якую А.Карповічу дапамог ажыццявіць А.Марачкін, прадаставіўшы для гэтага сваю майстэрню. Выстава праходзіла на працягу трох тыдняў у маі гэтага года. Майстэрня — не выставачная галерэя, таму атмасфера адрознівалася ад афіцыйна наладжваемых, на якія запрашаюцца высокапастаўленыя асобы. Невялікае памяшканне, дзе былі выстаўлены работы А.Карповіча, стварала нейкую камфортную, амаль хатнюю атмасферу, якую вельмі шчыра падтрымліваў сваёй добразычлівасцю гаспадар майстэрні. Хоць работы А.Карповіча і не трэба было прапагандаваць, усё роўна прыемна было адчуваць хваляванне прызнанага мастака за творчы лёс малодшага калегі. Як сцвярджаюць многія мастакі, А.Марачкін заўсёды з'яўляецца ў патрэбны час побач з тым, каму патрэбна дапамога і падтрымка.

Вось і зараз, адчыніўшы дзверы майстэрні і разам з наведнікамі зайшоўшы туды, Аляксей Антонавіч адразу паказвае новую работу Алега Карповіча, якую ён толькі што прынёс з рэдакцыі, бо сам Алег вымушаны быў там затрымацца — малюнак прысвечаны вынікам толькі што прайшоўшага рэферэндуму. Усе работы мастака, выкананыя ў жанры сатырычнай графікі, паслядоўна, тыдзень за тыднем, адлюстроўваюць сацыяльна-палітычнае жыццё рэспублікі. Сродкамі сатыры і гратэску мастак знаходзіць такія вострыя метафары, якія падкрэсліваюць асноўную сутнасць праяў і падзей.



Для гэтага, акрамя цвёрдай уласнай пазіцыі, трэба мець і пэўную смеласць — і аб гэтым сведчаць усе яго работы. Алег Карповіч жартуе: "У тэатральна-мастацкім інстытуце нас вучылі, што мастак павінен востра адчуваць і адлюстроўваць усе праявы сацыялістычнага рэалізму. Зараз я адлюстроўваю праявы сучаснага сацыяльнага жыцця, значыць, мяне ўсё роўна можна назваць сацрэалістам. Сваю дзейнасць мастака-графіка, які ў сатырычнай форме адлюстроўвае падзеі сучаснага палітычнага жыцця, я параўнаў бы з выказваннямі каралеўскага камедыянта, які ў смешнай форме не баіцца сказаць каралю праўду. І наогул, карыкатура — гэта вельмі дзейсны сродак супраць масавага замбіравання, гэта магчымасць паказаць, што ў кожнай з'явы ёсць і іншы, адваротны бок".










Сярод наведнікаў выставы былі людзі самых розных палітычных рухаў і партый, былі мастакі, мастацтвазнаўцы, кінарэжысёры, літаратары, людзі іншых творчых прафесій. Шмат было моладзі і, як ні дзіўна, — іншаземцаў, былі людзі дасведчаныя і проста цікаўныя, якія пазнаёміліся з творчасцю мастака дзякуючы штотыднёвіку. Г.Сакалаў-Кубай адзначыў высокі прафесіяналізм работ А.Карповіча і іх сацыяльную значнасць. Можна сказаць, што такой мастацкай з'явы на Беларусі ўжо даўно чакалі.

Заўважна, што ў пераломныя і крызісныя гады мастацтва карыкатуры праяўляецца з найбольшай сілай. Можна сказаць, што грамадства звяртаецца да гэтага віду мастацтва тады, калі яму дрэнна. Успомнім, з якой сілай уздзейнічалі на людзей у гады апошняй вайны газета-плакат "Раздавім фашысцкую гадзіну!" і сатырычны лісток "Партызанская дубінка". Так што традыцыі мастацтва карыкатуры ў нас ёсць, іншая справа, што пра іх забыліся. Вайна скончылася, гэта тэма страціла актуальнасць, а заганы савецкага ладу жыцця хіба хто асмельваўся крытыкаваць, закранаючы самую сутнасць негатыўных праяў? Так ужо атрымалася, што ў нашым грамадстве падыход да карыкатуры як да сур'ёзнага віду мастацтва не склаўся. Развіццё карыкатуры ў Беларусі спынілася на газетна-часопісным узроўні. Тыя майстры карыкатуры, якія былі здольны займацца гэтай справай на высокім мастацкім узроўні, не знаходзілі запатрабавання свайму таленту, многія з іх пакідалі рэспубліку. Адарванасць ад Еўропы таксама зрабіла сваё негатыўнае ўздзеянне. Апошняя міжнародная выстава карыкатуры праходзіла ў нас гадоў дзесяць таму. І вось творчасць Алега Карповіча напомніла нам аб тым, што майстры сатырычнай графікі ў нас не перавяліся. Часы змяніліся, і гэты від мастацтва зноў набыў сваю актуальнасць. Тое, што стварае Алег Карповіч, — менавіта беларуская карыкатура, змест і сэнс якой добра зразумелы ўсім тым, хто жыве на Беларусі, бо тэмы малюнкаў бяруцца з рэалій нашага сённяшняга жыцця.

Вядома, газета, а разам з ёю і малюнкі, змешчаныя ў ёй, жывуць адзін дзень. Малюнкі, прадстаўленыя на выставе, жывуць столькі, колькі працягваецца выстава. А калі творчасць мастака — з'ява сацыяльна значная, то такія выставы павінны адбывацца часцей. На жаль, у рэспубліцы няма практыкі альбомаў сатырычнай графікі. А творчасць такога таленавітага і непаўторнага мастака, як Алег Карповіч, заслугоўвае шырокай папулярызацыі.

**Зоя ЛЫСЕНКА**





АСОБА Ў КАНТЭКСЦЕ ГІСТОРЫІ

# " В ЭТОЙ ЖИЗНИ УМИРАТЬ НЕ НОВО..."

*(Сотым угодкам з дня народзінаў і 70-годдзю гібелі Сяргея ЯСЕНІНА прысвячаецца)*

## *Роздум, факты, дакументы пра смерць паэта*

*(Працяг. Пачатак у № 33)*

АДНЫМ з самых блізкіх і адданых сяброў Ясеніна была Галіна Беніслаўская. З нечуванай самаадданасцю і рэдкай самаахвярнасцю яна, дачка француза і грузінкі, аддала сябе яму цалкам. Яны пазнаёміліся восенню 1920 года, але зблізіліся толькі ў 24-м, і ў ёй паэт знайшоў арганічнае спалучэнне жонкі, палюбоўніцы, сястры, сябра, роднага чалавека. Без стомы, без скаргаў, без папрокаў яна несла цяжкі крыж турбот пра Ясеніна, пра ягонае жыццё — ад друкавання ягоных вершаў, здабывання грошай, турбот пра здароўе, шпіталі, абароны яго ад кабацкіх "сяброў" да пошукаў яго ўначы ў маскоўскіх аддзяленнях міліцыі.

Ясенін часта казаў, што "Галя мне сябар, Галя мне адзіны сябар" — і адразу ж забываўся на гэта. Беніслаўская сапраўды кахала яго, раўнавала, але ёй не было наканавана атрымаць ўзаемнае пачуццё. Справа даходзіла нават да таго, што Ясенін іншы раз прыводзіў на кватэру Беніслаўскай чужых жанчын, і яна яшчэ пасля іх рамантавала ложак!

Калі паміж імі адбыўся разрыў, паэт зразумеў, што страціў сваю галоўную апору ў жыцці — сябра. Тады ён выйшаў з яе пакоя і сказаў: "Ну, цяпер ужо мяне ніхто не кахае, калі Галя не кахае". Я думаю, што разрыў з гэтай жанчынай быў не апошняй з прычын гібелі Ясеніна. Для яго адыход Беніслаўскай быў агромністай стратаю — стратай чалавека, які дзеля яго быў гатовы на ўсялякія ахвяры. Пасля гэтага Ясенін быццам страціў веру ў любоў да яго людзей.

Дарэчы, кажучы аб'ектыўна, паэт па-сапраўднаму не любіў нікога і нічога, акрамя Паэзіі. "Ёсць такія людзі, — узгадвае Рурык Іўнеў, — якія створаны толькі для сваёй творчасці, і патрабаваць ад іх таго, што патрабуюць ад іншых, смешна і дзіўна. У большасці мастакоў творчасць — гэта адно, жыццё — зусім іншае. У Ясеніна жыццё і творчасць былі знітаваныя, як вяроўкі аднаго каната... Пры ўсёй той здзіўляючай цеплыні ягонай лірыкі, ягоная любоў была "беспрадметная". Ён любіў у сабе самога сябе. Ён часта нават "прыдумляў" сабе каханне, як гэта было з артысткай М., якой ён кожны дзень дасылаў кветкі і ў той жа час скардзіўся сябрам, што яму з ёй нудна".

Артыстка М. — гэта Аўгуста Леанідаўна Міклашэўская, якая іграла ў Камерным тэатры. Ёй Ясенін прысвяціў шэдэўры любоўнай лірыкі: "Заметался пожар голубой...", "Вечер черные брови насопил...", "Ты прохладой меня не мучай...", "Мне грустно на тебя смотреть...", "Пускай ты выпита другим...". "Ясенін цвярозы быў вельмі сціплы, — успамінае актрыса. — На людзях ён амаль ніколі не еў. Хаваў рукі, яны здаваліся яму непрыгожымі. Шмат казалі пра ягоную грубасць да жанчын. Але я ніколі не адчула і намёку на гэтую грубасць".

ЖАНЧЫНЫ ў жыцці Ясеніна. Гэта асобная тэма спецыяльнага даследавання. Але хачу падкрэсліць, што над некаторымі з іх, найбольш блізкімі да паэта, пасля смерці Сяргея Аляксандравіча навіс нейкі злы лёс. Застрэлілася на магіле каханага Галіна Беніслаўская. У 27-м годзе загінула Айседора Дункан: доўгі чырвоны шалік, які быў у яе на шыі, потыхам ветру наматаўся на аўтамабільнае кола. У 39-м у сябе на маскоўскай кватэры невядомымі асобамі, хутчэй за ўсё, супрацоўнікамі НКУСа была па-звярынаму зарэзаная Зінаіда Райх. А троху раней быў расстраляны як "вораг народа" сын Ясеніна Юрый — ад першай жонкі паэта Ганны Ізраднавай.

Ясенін кідаўся па жыцці, як карабель без ветразя ў бурлівым моры, не знаходзячы сваёй прыстані. Ад гэтых ясенінскіх кіданняў пакутавалі і блізкія да яго людзі. Але больш за ўсё пакутаваў ён сам. Неабаронены, па наіўнасці ці застольным дзівацтве, паэт то ўступаў у таварыства вальнадумцаў, то аб'яўляўся правадыром імажыністаў, то падтрымліваў адносіны з эсэрамі, з тым жа Блюмкіным, забойцам германскага пасла Мірбаха, нядобра выказваўся пра некаторых лідэраў партыі, ад'язджаў за мяжу, нярэдка хуліганіў там і, натуральна, быў на "кручку" ў органаў палітычнага вышуку, дзе да таго часу падабраліся ліхія хлопцы.



*Сяргей Ясенін і Айседора Дункан.*

Не так даўно з крыніц Міністэрства бяспекі Расіі сталася вядомым, што "справа" Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення на Ясеніна не існавала. Мне, безумоўна, вельмі сумніўна, што ў эпоху Троцкага і Дзяржынскага чэкісты абышлі сваёй увагай такую асобу. Сувязь з Айседорай Дункан, паездкі ў ЗША і Еўропу, розныя скандалы, нелісьлівыя меркаванні пра некаторыя бакі Савецкай улады... Праўда, пасля вяртання з-за мяжы ў Маскву Ясенін становіцца аб'ектам пастаяннай увагі міліцыі: яго сістэматычна затрымліваюць, дастаўляюць у Маскоўскі крымінальны вышук, узбуджаюць крымінальныя справы. Пяць з гэтых справаў былі накіраваныя ў Краснапрэсненскі народны суд па розных абвінавачваннях: то ў знявазе рабоча-сялянскай міліцыі, то за заклікі да "пагромных дзеянняў" і да т.п. Безумоўна, паэт у гэтых выпадках быў не цвярозы. Праўда, ніводная справа не была даведзена да канца.

Паэт Уладзіслаў Хадасевіч казаў, што адносна Ясеніна "быў аддадзены ў 1924 годзе загад па міліцыі — дастаўляць ва ўчастак для працвераджэння і адпускаць, не даючы справе далейшага руху". Гэтую версію (ці праўду?) пацвярджае і рэдактар часопіса "Красная новь" Аляксандр Варонскі: "З году ў год скрозь пальцы глядзелі на такія ўчынкі Ясеніна, якія для іншых не прайшлі б бясследна. Размова ідзе пра ягоныя скандалы, праўда, у п'яным, так мовіць, хворым, стане. Ясеніну гэта сыходзіла, таму што яго аберагалі і ведалі, што ён — "непаўторная кветка". І што ён хворы".

І тым не менш 20 лютага 1924 года старшыня Краснапрэсненскага раённага суда Камісараў (прозвішча ж якое!) вынес вызначэнне пра тэрміновае ўзяцце Ясеніна пад ахову. Па просьбе сястры паэт спачатку лёг у псіханеўралагічны шпіталь па Палянцы, 52. Потым атрымаў цяжкі парэз рукі і быў гаспіталізаваны ў Шарамецеўскі шпіталь (імя Скліфасоўскага), а адтуль пераведзены ў Крамлёўскую бальніцу.

Пра гісторыю з рукой хадзіла шмат легендаў, у тым ліку і пра тое, што Ясенін спрабаваў парэзаць сабе вены. У сапраўднасці ўсё было прасцей простага. Аднойчы з Марыенгофам ён ехаў п'яны на рамізніку дахаты. І па дарозе ў яго з галавы зляцеў капялюш. Ён саскочыў за ім і ўдарыўся аб вакно абутковай майстэрні. Шкло пабілася, і Ясенін моцна парэзаў правую руку. Так моцна, што пасля яе прамывання ў ракавіне плавалі кавалкі скуры і мяса. У шпіталі давялося аперыраваць руку...

У ФОНДЗЕ Ф.ДЗЯРЖЫНСКАГА нядаўна знойдзены цікавы ліст. Напісаны ён 25 кастрычніка 1925 года ў цягніку па дарозе ў Парыж. Аўтар ліста, адзін са слынных партыйных дзеячаў Хрысціян Ракоўскі напярэдадні быў прызначаны паслом у Францыю. Вось гэты ліст, які раней не публікаваўся: "Дарагі Фелікс Эдмундавіч! Прашу Вас пасадзейнічаць нам — Варонскаму і мне — каб выратаваць жыццё вядомага паэта Ясеніна — несумненна самага таленавітага ў нашым Саюзе. Ён знаходзіцца ў вельмі развітай ступені сухотаў (захоплены абодва лёгкія, тэмпература ўвечары і інш.). Знайсці, куды яго паслаць для лячэння, не цяжка. Яму ўжо было прадастаўлена месца ў Надзеждзінскім санаторыі пад Масквою, але няшчасце ў тым, што ён з-за свайго хуліганскага характару і п'янства не паддаецца аніякаму ўздзейнічанню ўрачоў. Мы вырашылі, што адзіны сродак, які прымусіць яго лячыцца, — гэта Вы. Запрасіце яго да сябе, падайце як трэба і пашліце разам з ім у санаторый таварыша з органаў паліт-праўлення, які не даваў бы яму піць. Шкада хлопца, шкада ягонага таленту, маладосці. Ён шмат яшчэ мог бы даць не толькі дзякуючы сваім незвычайным здольнасцям, але і таму, што, з'яўляючыся селянінам, добра ведае сялянскі асяродак".

Цікава, што амаль ніхто з біёграфаў пра сухоты Ясеніна не ўзгадвае. Мабыць, толькі Наседкін і Марыенгоф. Па ўспамінах Наседкіна, захварэў паэт увесну 1925 года, знаходзячыся ў Баку. Пасля прагулкі ў гарах на аўтамабілі на наступны дзень кроў пайшла з горла. Урачы, выкліканыя блізкім прыяцелем Ясеніна Пятром Чагіным, вынеслі прысуд: "Калі не кінеш піць, праз тры месяцы — смерць".

Аднак і сам Ясенін не хаваў, што ў яго не ўсё ў парадку з лёгкімі. Так, 11 траўня 1925 года ён піша Беніслаўскай з Баку: "З чаго гэта вы, Галя, узялі, што я п'ю? Я толькі кутнуў разы з тры з прыкрасці за сваё здароўе. Вось і ўсё. Добрая справа, каб у мяне былі сухоты. Каго хочаш туга возьме". А на наступны дзень дапісаў: "Мне забаронена піць. З лёгкімі сапраўды не ўсё добра... Пасля выздараўлення мяняю жыццё". І праз тры дні ў лісце да Васіля Качалава таксама напісаў, што "хварэе лёгкімі".

Марыенгоф узгадвае, што апошні час Ясенін мала еў, шмат піў. У асноўным, шампанскае. Аднойчы паэт сказаў яму, што вясной памрэ, што ў яго гарлавыя сухоты, "значыць, кранты!" "Я стаў казаць яму пра Італію, пра тое, што разам паедзем вясной да цёплай Адрыятыкі, паваляемся на гарачым пяску, паглытаем не гэтую дрэнь, а цудоўнае, спякотнае, расплаўленае золата д'анунцыеўскага сонца. "Не, памру". "Памру" вымаўляў цвёрда, рашуча, з зайздросным спакоем... Потым Ясенін чытаў вершы пра адляцелую маладосць і пра магільныя дрыжыкі, якія ён абяцаў прыняць як новую пяшчоту".

Пакуль мы не маем дакладных звестак пра тое, ці быў паэт у Дзяржынскага. Аднак на арыгінале ліста ёсць надпіс "жалезнага Фелікса" свайму сакратару: "Т.Герсану. Можа, Вы маглі б заняцца? Ф.Д." І не вельмі разборлівая занатоўка сакратара: "... Тэлефанаваў... Знайсці Ясеніна".

Захавалася медыцынская даведка ад 24 сакавіка 1924 года, дзе гаворыцца, што Ясенін "пакутуе на цяжкае нервова-псіхічнае захворванне, што выяўляецца ў цяжкіх прыступах сапсавання настрою і навязлівых думках і памкненнях". Улетку 1925 года, як успамінае Наседкін, у родным Канстанцінаве паэт "быў зусім непрытомны", "павялічылася манія праследу", "больш за ўсё палохаўся міліцыі і суда".

26 верасня таго ж 25-га года Ясенін з жонкай Соф'яй Талстой вяртаўся з Баку ў Маскву. У раёне Серпухава ў яго адбыўся п'яны канфлікт з пасажырам — дыпламатычным кур'ерам А.Рогам, на абарону якога ўстаў сусед па купэ нейкі Левіт. На Курскім вакзале паэт быў затрыманы, і на яго завялі чарговую крымінальную справу "за знявагу нацпрыналежнасці грам.Левіта".

Паслухаўшыся парад сястры Кацярыны, Ясенін лёг у псіхіятрычны шпіталь Першага Маскоўскага універсітэта ў Бажанінаўскім завулку, дзе яму далі светлы і прасторны пакой на другім паверсе. Быццам бы ўсё нармалёва — асобны пакой, адносная воля, перадачы, папера ды чарніла, хаця святло, як у турэмнай камеры, на ноч не гасла і дзверы заўсёды былі адчыненыя. Ясенінская палата была ля ўваходных дзвярэй, і ўсе наведнікі, прыходзячы да хворых, перш за ўсё бачылі гэтага вядомага скандаліста, быццам звера ў клетцы. Але, галоўнае, і тут паэта не пакідалі ў спакоі ні суддзя, які з нецярпеннем чакаў выпіскі Ясеніна, ні Зінаіда Райх, якая настойліва патрабавала ад яго грошай на ўтрыманне дачкі Таццяны, пагражаючы ў выпадку адмовы новым судом і арыштам ганарараў у Дзяржвыдавецтве.

"Дарагі Пётра, — піша Ясенін Чагіну, адпраўляючы яму ў Баку рукапіс "Чорнага чалавека". — Пішу табе са шпіталя. Зноў лёг. Навошта — не ведаю, але, мабыць, ніхто не ведае. Бачыш, трэба лячыць нервы, а тут фельдфебель на фельдфебелі. Іхняя тэорыя ў тым, што сцены лечаць лепей за ўсё без лекаў... Усё гэта патрэбна мне, магчыма, толькі для таго, каб пазбавіцца ад некаторых скандалаў".

АЛЕ і страх перад "некаторымі скандаламі" не супыніў Ясеніна. Знаходжанне ў шпіталі яго вельмі прыгнятала, і 7 снежня — за тры тыдні да смерці — ён дасылае Вольфу Эрліху ў Ленінград тэлеграму з просьбай падшукаць яму "два-тры пакоі", абяцаючы пасля дваццатага быць там. У шпіталі паэт апранаў сваё адзенне і 21 снежня, скарыстаўшы зручны момант, выслізнуў адтуль з натоўпам наведнікаў. У той жа дзень і на наступны Ясеніна бачылі ў нецвярозым стане ў Доме Герцэна. Нешта рабілася з ягонаю душою, нешта трывожыла яго. Ён хадзіў па рэдакцыях і выдавецтвах, нечакана наведаў сваю першую жонку Ганну Ізраднаву і сына Юрыя, якому праз некалькі дзён спаўнялася 11 гадоў. "Бачыла яго незадоўга да смерці, — узгадвае Ізраднава. — Сказаў, што прыйшоў развітацца. На маё пытанне: "Што, чаму?", кажа: "Змываюся, ад'язджаю, пачуваюся дрэнна, мабыць, памру". Прасіў не разбэшчваць, берагчы сына".

Пасля наведвання Ізраднавай паэт зайшоў на кватэру Зінаіды Райх, пагуляў з дачкою Таняй. 23-га прыехаў да жонкі Соф'і Талстой у Памеранцавы завулак і моўчкі пачаў збіраць свае рэчы: адносіны паміж імі практычна былі разарваныя па ініцыятыве Ясеніна. Увогуле, трэба заўважыць, што гэта быў даволі дзіўны шлюб. Яна, унучка Льва Талстога, безумоўна, кахала яго. Ён — у сваю чаргу — казаў жартам, што гэта папугай прымусіў яго ажаніцца: пра гэта — верш "Видно, так заведено навеки..."

Яшчэ ўлетку 25-га, за колькі месяцаў да афіцыйнай рэгістрацыі шлюбу, Ясенін пісаў Мікалаю Вяржбіцкаму: "... Усё, на што я спадзяваўся, пра што марыў, ідзе на злом. Мабыць, у Маскве я не пасталею. Сямейнае жыццё не складваецца, хачу бегчы. Куды? На Каўказ!.. З новаю сям'ёю наўрад ці што атрымаецца, занадта тут усё запоўнена "вялікім старым", яго зашмат паўсюль, і на сталах, і ў сталах, і на сценах, здаецца, нават на столі, і для жывых людзей не застаецца месца. І гэта душыць мяне..." Адным словам, сямейнае жыццё

# АСОБА Ў КАНТЭКСЦЕ ГІСТОРЫІ

Ясеніна і Талстой, толькі пачаўшыся, адразу практычна развалілася.

У гэты дзень, 23 снежня, калі паэт ужо склаў свае рэчы ў кватэры жонкі, з'явіўся Васіль Наседкін. Ясенін узрадаваўся і адразу перадаў яму чэк на атрыманне свайго ганарару на суму 640 рублёў для таго, каб ён ужо заўтра, 24-га пераслаў яго ў Ленінград на адрас Эрліха: сам ён не паспеў зайсці ў банк і едзе ў Піцер амаль без грошай.

А сёмай гадзіне Ясенін з кузенам Іллёю пагрузілі рэчы ў двое санак. Соф'я Талстая і малодшая 14-гадовая сястрычка Шура выбеглі на балкон. Церушыўся лёгкі снег. Паэт сеў у другія сані. Снег хутка заваліў капялюш і раскошнае футра. "Бывай, Сяргей!" — чамусьці крыкнула Шура. Ён падняў галаву, усміхнуўся і памахаў рукою. Сані ад'ехалі. На вакзале ён выпадкова сустрэў літаратара Аляксандра Сахарава, якому ў свой час прысвяціў "Русь советскую", але размаўляць з ім не захацеў: мабыць, не было ў Ясеніна жадання размаўляць з кім-небудзь у гэтыя апошнія хвіліны свайго знаходжання ў Маскве...

РАНІЦАЙ 24 снежня Сяргей Аляксандравіч выйшаў на перон Маскоўскага вакзала ў Ленінградзе, узяў рамізніка і з рэчамі накіраваўся да Эрліха на вуліцу Някрасава. Яго не аказалася ў хаце, і Ясенін, пакінуўшы Эрліху запіску і рэчы, паехаў у гатэль "Англетэр", дзе пражываў ягоны стары знаёмы Георгій Усцінаў (Жорж) разам з жонкай Лізаветай (цёткай Лізай).

Ясенін зняў пяты нумар і пасяліўся ў ім. З нагоды прыезду паэт праставіў сябрам, што сабраліся ў яго, дзве паўбутэлькі шампанскага. Прыйшоў Эрліх, муж і жонка Колабавы. Сяргей Аляксандравіч быў незвычайна вясёлы, узбуджаны, чытаў вершы, будаваў планы на будучыню, марыў застацца ў Ленінградзе назаўсёды і выдаваць, як калісьці Някрасаў, свой літаратурны часопіс. Здавалася , нічога не прадказвала бяду.

Па просьбе паэта ў ягоным нумары ў першую ноч застаўся начаваць Эрліх: у апошні час Ясенін панічна баяўся начной самоты. Прачнуўшыся на золку, ён запатрабаваў, каб Эрліх адразу адвёз яго да Мікалая Клюева. З гэтай жа думкай ён кінуўся ў нумар да Усцінавых — да цёткі Лізы і Жоржа: Клюеў, так бы мовіць, Настаўнік, быў і застаецца настаўнікам, і ён, Ясенін, не можа не бачыць Мікалая, бо толькі яго любіць. Ледзьве ўгаварылі яго пачакаць да больш прыстойнага часу для наведвання.

Паехалі разам з Эрліхам а дзевятай гадзіне. Не ведалі нумара дома, паблукалі, але расшукалі, пабудзілі, паднялі Клюева з ложка і адвезлі з сабою ў гатэль. Ясенін адразу ж пачаў чытаць свае вершы, апошнія, з лістападаўскіх часопісаў. Чытаў і ненадрукаванае. Так бы мовіць, даваў справаздачу настаўніку. Клюеву пачутае не спадабалася. Прычым ён з'едліва заўважыў: "Я мяркую, Сярожачка, каб гэтыя вершы сабраць у адну кніжачку, яны б сталіся настольным чытаннем для ўсіх дзяўчат і пяшчотных юнакоў, што жывуць у Расіі" (В.Эрліх). У інтэрпрэтацыі Усцінавай: "Вось, Сярожачка, добра, вельмі добра! Калі б іх сабраць у адну кніжку, дык яна б сталася настольнаю кнігай усіх добрых, пяшчотных дзяўчат".

Ясенін ад нечаканасці стаў змрочны, замкнуўся, але хутка ўзяў сябе ў рукі і падкрэслена развесяліўся. З'явілася піва і трохі віна. Спадарства ажывілася. Клюеў сядзеў моўчкі і рана, а чацвёртай гадзіне пайшоў, паабяцаўшы вярнуцца на наступны дзень. Але не вярнуўся. У гэты дзень, у пятніцу, у Ясеніна пабывалі Усцінавы, Колабавы, скульптар Мансураў, журналіст Ушакоў і пісьменнік Ізмайлаў. Увечары ненадоўга забег і паэт Іван Прыблудны. Суботу, 26 снежня, Ясенін правёў прыкладна так: тыя ж асобы, размовы, планы пра выданне часопіса, чытанне вершаў. Абедалі, пілі гарбату. Эрліх бегаў на пошту, каб атрымаць грашовы перавод на імя Ясеніна, дасланы з Масквы Наседкіным. Але грошы Эрліху не выдалі, бо ў яго не было афармленай даверанасці. Хадзіў на пошту і сам Ясенін, але і яму не давялося атрымаць гэтыя грошы.

Усцінава: "У той дзень (26 снежня) было няшмат віна і піва. Мяне, памятаю, уразіў адзін учынак Ясеніна: ён раптам забараніў швейцару каго-небудзь пускаць да яго, а нам растлумачыў, што гэта яму патрэбна для таго, каб з-Масквы не было магчымасці яго пільнаваць.



*В.Сварог. Сяргей Ясенін. 1925 г. Подпіс на французскай мове:"Сяргей Ясенін. Першы накід, зроблены пасля ягонай смерці".*

Памятаю, заклаўшы рукі ў кішэні, Ясенін хадзіў па пакоі, апусціўшы галаву і зрэдку папраўляючы валасы. "Сярожа, чаго ты п'еш? Ты ж раней меней піў?" — пытаюся я. "Ах, цётка, калі б ты ведала, як я пражыў гэтыя гады! Мне зараз так нудотна!" — "Але ж твая творчасць?" — "Нудная творчасць! — ён спыніўся, усміхаючыся збянтэжана, амаль вінавата. — Ніхто і нішто мне не патрэбны — не хачу! Шампанскае вось весяліць, бадзёрыць. Усіх тады люблю і... сябе! Жыццё — рэч танная, але неабходная. Я ж "боская дудка". Я папрасіла растлумачыць, што азначае "боская дудка". Ясенін сказаў: "Гэта калі чалавек выдаткоўвае са сваёй скарбніцы і не папаўняе яе. Папаўняць яму няма чым і нецікава. І я гэтакі ж". Ён смяяўся з горкаю складкаю ля губ".

Прызнанне даволі сімптаматычнае! Прызнанне, якое заканамерна вынікае з трагічных словаў "Чорнага чалавека": Друг мой, друг мой, Я очень и очень болен. Сам не знаю, откуда взялась эта боль...

Няўжо яно, гэтае прызнанне пра "боскую дудку", не сціснула, быццам у кулаку, душ Усцінавай і ўсіх, што знаходзіліся ў нумары?

Надвячоркам 27 снежня ў пакоі засталіся трое: Ясенін, Ушакоў і Эрліх. А восьмай Эрліх пайшоў дадому. Калі дайшоў да Неўскага, ён успомніў, што забыўся на партфель, дзе знаходзілася даверанасць, і вярнуўся. Ушакова ў нумары ўжо не было, ён пайшоў да сябе "паспаць гадзінкі са дзве". Ясенін сядзеў спакойны, накінуўшы на плечы футра, і праглядаў старыя вершы. На стале — адкрытая папка з рукапісамі. Ці прынята ўжо фатальнае рашэнне? Ці яно нарадзілася значна раней?

КАЛІ ЭРЛІХ, узяўшы свой партфель, пайшоў, Ясенін каля дзесяці гадзін спусціўся да швейцара і папрасіў нікога да яго не пускаць. Раніцай Усцінава прыйшла ў ягоны нумар, каб паклікаць яго на снеданне. Пастукала. Ніхто не абазваўся. Стукала яшчэ. Прыйшоў Эрліх. Стукаліся ўдвух. Адказу не было. Лізавета Аляксееўна звярнулася да ўпраўляючага гатэлем Назарава. Той адчыніў дзверы адмычкаю і адразу пайшоў да сябе. Калі Усцінава і Эрліх увайшлі ў нумар, дык з жахам убачылі Ясеніна ў пятлі ля вакна. Яны адразу кінуліся да Назарава. Назараў патэлефанаваў у міліцыю. Прыбег участковы міліцыянт 2-га аддзялення міліцыі і праз некаторы час з'явіўся наступны акт (захоўваю стыль і знакі прыпынку): "28 снежня 1925 года складзены дадзены акт мною, уч. міліцыянерам 2-га аддзялення Л.Г.М. М.Гарбовым у прысутнасці загадчыка гатэля Інтэрнацыянал тав. Назарава і панятых. Згодна тэлефанаванню загадчыка гатэля грам. Назарава В.Міх. пра грамадзяніна, які павесіўся ў нумары гатэля. Прыбыўшы на месца, мною быў убачаны мужчына, які вісеў на трубе цэнтральнага ацяплення ў наступным выглядзе, шыя заціягнута была не мёртваю пятлёй, а толькі правага боку шыі, твар звернуты да трубы, і кісць правай рукі зачапіла за трубу, труп вісеў пад самай столлю і ногі былі каля 1,5 метраў, каля месца дзе знойдзены павешаны ляжала кінутая тумба і кандэлябр што стаяў на ёй ляжаў на падлозе. Пры знятці трупа з вяроўкі і пры аглядзе яго было знойдзена на правай руцэ вышэй локця з боку далоні парэз на левай руцэ на кісці драпіны, пад левым вокам сіняк, апрануты ў шэрыя нагавіцы, начную сарочку, чорныя шкарпэткі і чорныя лакіраваныя чаравікі. Па прадстаўленых дакументах, павешаным з'яўляўся Ясенін Сяргей Аляксандравіч, пісьменнік, што прыехаў з Масквы 24 снежня 1925 года."

Ніжэй у акце дапісана: "Пасведчанне №42-8516 і даверанасць на атрыманне 640 р. на імя Эрліха". У якасці панятых распісаліся паэт Усевалад Раждзественскі, крытык П.Мядзведзеў, літаратар М.Фроман. Ніжэй — подпіс В.Эрліха.

БЕЗУМОЎНА, акт з прафесійнага пункту погляду складзены вельмі дрэнна, на што звярнулі ўвагу прыхільнікі версіі забойства паэта. Напрыклад, чаму Гарбоў на месцы трагедыі не высветліў, пры якіх абставінах пад вокам Ясеніна з'явіўся сіняк. Ніхто ж — ні Эрліх, ні Усцінавы — не напісаў, што ў паэта ён быў напярэдадні ўвечары. Ці яшчэ. Правай рукою Ясенін трымаўся за трубу. Жывы паэт мог, канешне, трымацца за трубу, але, як сцвярджаюць некаторыя медыкі, калі наступае смерць, мышцы слабеюць, і рука павінна апусціцца ўздоўж цела. Чаму ж правая рука была паднятая ўверх?

У акце сказана, што ў Ясеніна была разрэзана правая рука вышэй локця з боку далоні. Можа быць, паэт спачатку разрэзаў вену, каб скончыць жыццё, а потым чамусьці перадумаў і вырашыў павесіцца? Калі б гэта было так, кажуць апаненты, дык Ясенін з разрэзанай венаю павінен быў бы знайсці двухметровую вяроўку , затым прывязаць яе высока над галавой. Натуральна, адной левай рукой гэтага не зрабіць, трэба задзейнічаць і правую. Значыць, кроў з правай, разрэзанай рукі павінна была б заліць яму твар, галаву, плечы, рукі, трубу, вяроўку, сцяну. Але гэтага не адбылося! І ці магчыма пры такой страце крыві перасоўвацца, залазіць на крэсла, стол, тумбу? Ці мог ён, маючы невялікі рост, дацягнуцца да трубы, да якой быццам бы была прывязаная вяроўка? Калі ногі загінуўшага паэта былі на вышыні 1,5 метра ад падлогі, дык як мог ён з крэсла завязаць вяроўку пад столлю? Значыць, нехта гэта зрабіў?

Не ўступаючы ў палеміку з апанентамі, адзначу толькі, што парэз правай рукі — гэта вынік той самай аперацыі ў Шарамецеўскім шпіталі (пасля падзення Ясеніна з рамізніка), дык ніякай крыві ў гэтую ноч і не магло быць. Такім чынам, падняцца на стол і тумбу ён мог вельмі лёгка. І калі пятля зацягнулася і Ясенін адштурхнуўся, кандэлябр з тумбаю паваліліся і, хутчэй за ўсё, упалі на рэчы і рукапісы, раскідаўшы іх па падлозе.

Вядома, што на месца здарэння прыязджаў агент Крымінальнага вышуку І-й брыгады Ф.Іваноў. Аднак, што ён рабіў у нумары гатэля, якія праводзіў пошукавыя і аператыўныя дзеянні, невядома. Мяркуючы па газетнай публікацыі, у нумары быў і ўрач, які назваў прыкладны час наступлення смерці Ясеніна. Па адных сцвярджэннях, гэты ўрач называў 5-6 гадзін, па іншых — 6-7 гадзін з моманту знаходжання трупа. Менавіта гэтая заява ўрача, які не пакінуў пра сябе аніякіх звестак, не адзначанага ні ў адным дакуменце, прынята ўсімі даследчыкамі жыцця Ясеніна за ісціну, такім чынам, ён памёр каля 5 гадзін раніцы 28 снежня 1925 года.

Адзін з панятых, паэт Усевалад Раждзественскі, пісаў, што смерць Сяргея Аляксандравіча для яго і іншых ленінградскіх літаратараў была поўнай нечаканасцю. У тую раніцу ён прыйшоў у Саюз пісьменнікаў і быў сведкай, як П.Мядзведзеў падняў слухаўку тэлефона, як скрывіўся ягоны твар, калі яму паведамілі страшную навіну. Раждзественскі, Мядзведзеў і Фроман прыбеглі ў "Англетэр" аднымі з першых.

"Проста насупраць парогу, трохі збоку, ляжала на дыване сутаргава выцягнутае цела. Правая рука была злёку прыўзнятая і змярцвела ў незвычайным згібе. Раздуты твар быў страшны — у ім нічога ўжо не нагадвала былога Сяргея. Толькі знаёмая лёгкая жаўцізна валасоў як і раней наўскось закрывала лоб. Апрануты ён быў у модныя, нядаўна адпрасаваныя нагавіцы. Адмысловы пінжак вісеў тут жа, на спінцы крэсла. І мне асабліва кінуліся ў вочы вузкія, рассунутыя вуглом насы лакіраваных чаравікаў. На маленькай плюшавай канапе, за круглым столікам з графінам вады, сядзеў міліцыянер у туга падпяасаным шынялі, водзячы агрызкам алоўка па паперы, пісаў пратакол. Ён быццам бы ўзрадаваўся нашаму прыходу і адразу ж прымусіў нас падпісацца як сведкаў. У гэтым сухім дакуменце ўсё была сказана каротка і дакладна, і ад гэтага бессэнсоўны факт самазабойства падаўся яшчэ больш недарэчным і страшным".



*Зінаіда Райх з дзецьмі — Канстанцінам і Таццянай Ясенінымі.*

КАРАЦЕЙ КАЖУЧЫ, тады ні ў кога не было сумненняў адносна дабравольнага адыходу Ясеніна з жыцця. Магчыма, таму крымінальнай справы па факце гібелі не было ўзбуджана, даследаванне прычын трагедыі не праводзілася. Увесь вышук звёўся да таго, што ўчастковы міліцыянт Гарбоў раздаў чатыры бланкі пратакола допыту Усцінаву, Усцінавай, Назараву і Эрліху. Першыя трое напісалі ўсё, што ведалі і бачылі, а пратакол Эрліха запісаў агент крымінальнага вышуку Іваноў.

Дазнаўшыся пра трагічную смерць Ясеніна, многія дзеячы культуры і прыхільнікі ягонага таленту прыбеглі ў гатэль "Англетэр". У іх ліку быў і мастак Васіль Сварог. На першым кавалку калькі, што трапіў пад руку, ён зрабіў накід галавы Сяргея Аляксандравіча, які ляжаў на смяротным ложку. Пазней Сварог падараваў свой малюнак французскаму пісьменніку Анры Барбюсу, які праз некалькі гадоў, у сваю чаргу, перадаў яго парыжскаму крытыку Флаке. Ад яго, ужо пасля вайны, партрэт трапіў да Агеспарса, выдаўца літаратурнага часопіса "Маргіналіі", дзе нярэдка публікаваліся матэрыялы пра рускую культуру. І ў рэшце рэшт, Агеспарс падараваў гэты малюнак прафесару Брусельскага універсітэта, спецыялісту па рускай літаратуры Жану Бланкофу, у якога ён захоўваецца і па сёння.

Пасля поўдня санітары вынеслі цела Ясеніна з гатэля і на чухонскіх санях завезлі яго ў Абухаўскі шпіталь, дзе і адбылося ўскрыцце. А неўзабаве была апублікавана "Памятка пра Сяргея Ясеніна", у якой распавядалася: "... У куце на трубе паравога ацяплення, на вяроўцы ад валізкі вісеў Сяргей Ясенін. На левай руцэ было некалькі драпінаў, а на правай, вышэй локця, глыбокі парэз, зроблены нажом ад ляза. Відавочна, Ясенін спрабаваў перарэзаць сухажылле... Дакладна ўстаноўлена, што Ясенін памёр ад удушша, прычым страта крыві, як вынік надрэзу на венах, магла, у сваю чаргу, садзейнічаць непрытомнаму стану. Крывавыя плямы на нагах сведчаць пра тое, што Ясенін доўга вісеў у пятлі. Ускрыццем таксама адзначана, што аніякіх анамальнасцяў у мазгу Ясеніна не было. Па заключэнні экспертаў труп Ясеніна правісеў каля 6-7 гадзін".

Аўтар "Памяткі" спісваў тэкст з акта ўскрыцця трупа паэта, зробленага патолагаанатамам-судмедэкспертам А.Гілярэўскім. Самае цікавае, што амаль усе версіі забойства паэта будаваліся на крытыцы менавіта гэтага важнейшага дакумента. Вельмі настойліва казалася пра сумненні аб праўдзівасці самога акта, аб тым, што ягоная апісальная частка не адпавядае высновам судмедэксперта. Выказваліся таксама сумненні пра ягоную сапраўднасць. Па-першае, акт напісаны на простым аркушы паперы без рэквізітаў медустановы, вуглавога штампа, гербавай пячаткі, подпісу галоўурача ці загадчыка аддзялення шпіталя, рэгістрацыйнага нумара. Па-другое, акт напісаны паспешліва, ад рукі і ў адным экземпляры. Па-трэцяе, Гілярэўскі быў абавязаны агледзець труп і ўказаць на наяўнасць цялесных пашкоджанняў, адзначыўшы час іхняга з'яўлення, наяўнасць ці адсутнасць прычыннай сувязі з наступленнем смерці. Гэтага, кажуць апаненты, ён не зрабіў, хаця і ўказаў на парэзы на руках, прызнаўшы іх павярхоўнымі, якія "ўплыву на смерць не зрабілі". Судмедэксперт не ўказаў і механізму ўтварэння сіняка пад левым вокам. Адзначыўшы наяўнасць на ілбе ўдаўленай баразды даўжынёй 4 сантыметры і шырынёй 1,5 сантыметры, ён не адзначыў стан костак і чэрапа. Менавіта таму і ўзнікла версія пра забойства паэта шляхам нанясення па ягоным твары ўдару цвёрдым прадметам і наступнага павешання з мэтай інсцэніроўкі самазабойства. Дадам, што акт дайшоў да нас пашкоджаным: пашкоджаная частка складала сем ніжніх радкоў на абодвух баках тэксту.

**Барыс КРЭПАК,**
**заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі**

*(Заканчэнне будзе)*

РАСКАДРОЎКА • КАНТРАМАРКА

# СЁННЯ ВІТАЛЯ МАНСКАГА

***Апошнім часам, каб надаць значнасці і ўзмацніць індывідуальнасць Творцы любой галіны мастацтва, крытыкі або журналісты лёгка знайшлі выйсце. Амаль у кожным артыкуле-рэцэнзіі сустрэнеш сказ: "майстар знайшоў (заняў) сваю нішу ў мастацтве". Іншым часам здаецца, што і само Мастацтва не што іншае, як вялікая дзірка, прасвідраваная талентам Творцаў на мірыяды геніяльных ніш-адтулін. Не ўтаю, я б шмат чаго аддала, каб адным вокам паглядзець хоць на адну нішу генія. Напрыклад, кінамайстра. Бо, як сведчаць прызнаныя імёны-тэарэтыкі, у паслядоўным і метадычным вывучэнні новых карцін сусветнага кінематографа сёння назіраюцца адны тэндэнцыі. Прабачце, але ж сумна чытаць сухія рэцэнзіі пра "новую (старую) тэндэнцыю ў сінема, дзе першы план аддаецца святлу (цемры), рукам (вачам), фактурнаму герою (антыгерою)"...***

***Магчыма, гэта традыцыйная тактыка ўсіх крытыкаў, але ж куды падзеліся прафесійна-чалавечыя адносіны да той ці іншай карціны? Няўжо крытыкі таксама баяцца выйсці са сваёй нішы-амплуа?***

***Да чаго я ўсё гэта? Ды ўсе пра яго, пра Творцу. Віталь Манскі — рэжысёр-дакументаліст, які больш вядомы за мяжой. Нарадзіўся ў Львове ў 1963 годзе. Адным словам, разумны малады Творца, работы якога яшчэ два гады таму называлі кан'юнктурнымі. Сёння ж ён мае сваю студыю ў Маскве, некалькі прызоў і свядома працуе на сваё імя. Хіба гэта дрэнна?***


Віталь Манскі

**— Віталь, Вашу творчасць шмат хто з крытыкаў называе правакацыйнай. Дастаткова ўзгадаць фільмы: "Цела Леніна", 1992 год; "Зрухі чарговай вайны", 1993 год; — і адразу ж адчуваецца, нават па назвах, што гэтыя стужкі рабіліся для заходняга гледача. Вы згодныя?**

— Я лічу сябе касмапалітам. І як бы хтосьці з вас ні намагаўся назваць мяне кан'юнктурным, то я з гэтай назвай не пагаджуся. Хаця і гэткае вызначэнне творчай дзейнасці не самае апошняе ў мастацтве. Глядач — велічыня інтэрнацыянальная. Хроніка маіх стужак зразумелая і ў Туле, і ў Турцыі. Нацыянальнасцей мае карціны не маюць. Шкада, што мае работы не бачыў айчынны глядач. Вось такія вынікі для рэжысёра і ягоных паплечнікаў я называю актам творчага ананізму. Працуем дзеля задавальнення творчых амбіцый.

**— Здаецца, Вам сорамна скардзіцца. Нядаўна на канале БТ прайшоў рэпартаж пра кінафорум у Тамперы, дзе пэўную частку эфірнага часу адвялі інтэрв'ю з Вамі.**

— Так. Я не першы год удзельнічаю ў міжнародных фестывалях. Напрыклад, каб прыехаць у Санкт-Пецярбург на фэст "Пасланне да чалавека", я адмовіўся ад удзелу ў конкурсе на МКФ у Марселі. Я аддаю перавагу сваім айчынным ці СНГ фестывалям. Хочацца паглядзець стужкі сваіх калег, зноў жа і сябе паказаць. Дарэчы, вось у гэтым годзе я не сустрэў ні Юрыя Хашчавацкага з Мінска, ні Сяргея Букоўскага з Кіева. Шкада. Вядома ж, праблемы ў рэжысёраў аднолькавыя.

**— Грошы, адсутнасць сучаснай кінатэхнікі...**

— Не толькі. Напрыклад, прабіцца на канал ОРТ амаль немагчыма. Адчуваецца, што такі від мастацтва, як дакументальнае кіно, страчвае папулярнасць. Дзіва, а глядач успрымае хроніку толькі з "горячих точек". Ну, а калі ты зрабіў фільм пра іншае жыццё, не ваеннае, хочаш паўдзельнічаць у МКФ, дык сам рэжысёр і павінен прабівацца на вялікі экран.


Кадр з новага фільма "Заўтра".

**— У праграме міжнароднага конкурсу прадстаўлены Ваш фільм "Эцюды пра каханне. III частка". Але ж вытворчасць стужкі пазначана нямецкай МВ-студыяй.**

— Так. Першае, з чым сустракаецца сучасны рэжысёр, — спонсары. Трэба настолькі зацікавіць мецэната ідэяй фільма, каб ён і ў думках не насмеліўся спыніць пачаты творчы працэс. А купляюць зараз толькі кан'юнктурныя сюжэты. Вось рэжысёр і круціцца, як вужака на патэльні. Сёння відавочна, што катастрафічна не хапае прадзюсераў, якія б займаліся сваёй справай. А рэжысёр павінен рабіць стужку, а не "прапіхваць" яе на вялікі экран. Рэжысёр-прафесіянал павінен мець некалькі прапаноў, мець творчы выбар, які больш пасуе да яго ўнутранага стану.

**— Дазвольце апошняе і самае вульгарнае пытанне. Над чым Вы працуеце зараз?**

— Цяпер я здымаю стужку пра дзвюх сясцёр. Сюжэт даволі земны, але пра неўміручыя катэгорыі: дабрыню і "крыж", які здольны несці толькі высакародны чалавек.

Так здарылася, што ў сям'і нарадзілася двойня дзяўчынак. Толькі адна з іх нарадзілася карлікам... Дык другая сястра прысвяціла сваё жыццё каб даглядзець яе. Так і жывуць дзве старэнькія вясковыя жанчыны ў правінцыі Расіі са свaімі цяжкасцямі і радасцямі... Карціна мае назву "Заўтра". Хіба гэта кан'юнктурная тэма?

**— Дзякуй за размову.**

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

# ВЫП'ЕМ ЗА ЗДАРОЎ'Е НАЦЫІ, ЯКАЯ ДАЎНО ХВАРЭЭ!

***Пісаць пра спектакль, які яшчэ не адбыўся і зусім не знаёмы гледачу, — наўрад ці вартая справа. Расказваць пра будучую прэм'еру — ці не лішні клопат, і ўсё ж я не вытрываў, каб не пагутарыць са стваральнікамі і ці не галоўнымі энергетычнымі рухавікамі пастаноўкі спектакля "Паехалі!" у Купалаўскім тэатры. Знаёмцеся, — рэжысёр Андрэй Андросік і драматург Мікалай Захарэнка. Перш чым уступаць з імі ў дыялог, усё ж давайце выслухаем маналогі стваральнікаў спектакля.***

**Слова — рэжысёру Андрэю Андросіку:**

— У аснове нашай працы — сатырычна-бытавы драматургічны эцюд "Па рэвізію!", напісаны ўкраінскім літаратарам Маркам Крапіўніцкім напрыканцы мінулага стагоддзя. Спачатку меркавалі падрабіць забытую п'есу пад сучаснасць, вымаляваць драматычную структуру твора, перапрацаваць п'есу пад беларускія рэаліі. Але ж з часам матэрыял падаўся прыдатны для стварэння зусім новага твора. Тэмай жа яго ( у адрозненне ад асновы Крапіўніцкага) сталася не п'янства, карыкатурна вымалёванае, а жаданне паказаць са сцэны лад жыцця, характар мыслення. Так, у Крапіўніцкага намаляваны пэўныя парасткі. Мы іх выкарасталі. І толькі. У астатнім п'еса, спектакль — быццам люстэрка, што адбівае ўсё чалавечае жыццё разам, у адначассе . І дае падставы паразважаць над тым беларускім ці проста агульным балаганам, што дзеецца ў жыцці. Як і ў мінулым, так і сёння.

**Мікалай Захарэнка — аўтар п'есы "Паехалі!":**

— Давайце ўсё ж згадаем, што адбывалася ў абразку Крапіўніцкага. Валасны старшыня пасля запою выходзіць на працу. Чыноўнік прагне дзейнасці. Увесь час парываецца ехаць з рэвізіяй. Ды толькі на працягу дня ўсё нешта перашкаджае. Прыходзяць наведнікі. Са скаргамі. І не толькі. Нясуць і гарэлку. Спярша ( а ідэя належала Андрэю Фёдаравічу) меркавалі пашырыць эцюд, прыўнесці фальклорныя рэчы. І такім чынам прадставіць на суд гледачоў фактычна камедыю таго ж Крапіўніцкага. Ды з працай адчулі магчымасць паглыблення ў праблему. П'янства — гэта не тая тэма...


Андрэй Андросік

**Спроба вашага карэспандэнта перарваць маналогі:**

**— А што ж тады для Вас галоўная тэма?**

— П'еса "Паехалі!" расказвае пра людзей, якія па прыродзе сваёй прагнуць і шукаюць свята жыцця. Узнікла своеасаблівая мадэль. Рэаліі быцця гэткія, што пошук свята ажыццяўляецца не там і не так. Свята не з'яўляецца плённым. Хутчэй гэта — канстатацыя трагедыі. А калі і пошук свята, то пошук, каторы ідзе ад жадання народа, які ўжо стварыў магутную культуру, — такую вось філасофскую мадэль уласнага твора выбудоўвае драматург.

**Карэспандэнцкае адступленне.**

*Ацэнку п'есе, спектаклю можна будзе даць, канешне ж, пасля яго прэм'еры. І не толькі. Пасля шэсця спектакля ў народ, да гледача. Што цікава зараз, дык гэта свет, ідэя "Паехалі!", праекцыя драматургічнага асэнсавання жыцця ізноў жа на само жыццё. Часам, асабліва нядаўнім часам, у тэатр, як і ў літаратуру, дарэчы, уваходзілі сюжэты ілюстрацыйна-гістарычныя. Было і патлумачванне, і самаапраўданне: маўляў, і ў гістарычных ці проста ў творах мінулага ёсць галоўнае — душа беларуса. І толькі...*

**Андрэй Андросік:**

— У пошуку свята закладзена і небяспека. Закладзена перманентнасць. Свята становіцца адзінай формай існавання. Жыццё асэнсоўваецца, уяўляецца як суцэльнае свята. Больш таго: свята пераўтвараецца ў святочнасць. Радасць становіцца небяспекай.

**Мікалай Захарэнка:**

— У фінале п'есы развальваецца вазок, на якім збіраўся ехаць па рэвізію валасны старшыня.

**Пытанне ад карэспандэнта:**

**— Вось і вазок развальваецца. На Крапіўніцкага гэтую бядоту не зваліш. П'еса ж як быццам арыгінальная. І зразумела, што актуаліі самым цяжкім грузам кладуцца на Вашы плечы падчас творчага працэсу. Дык што, якое сучаснае пытанне Вы — і рэжысёр, і драматург — гатовы агучыць?**

**Мікалай Захарэнка:**

— Відовішча ў спектаклі выразна тэатралізаванае, задзірыстае. Над сабою смяемся і плачам. Смяемся з нагоды таго, дзе адбываецца дзеянне. Сапраўднае балота.

**Андрэй Андросік:**

— Жабы спяваюць, квакаюць п'янымі галасамі: "Мой родны кут..." "Паехалі!" — гэта спроба весела і гаротна разгледзець сябе. І пакутліва, і цікава, і небяспечна асэнсоўваць нешта жыццёвае, чалавечнае з раптоўна ўзнікшай лініяй балотных духаў. Паводле жанру наш спектакль у адначассе — гэта і камедыя, і фарс, і феерыя.

**Карэспандэнцкае адступленне:**

*Разам з мастаком Барысам Герлаванам і кампазітарам Уладзімірам Кур'янам аўтары спектакля, рэжысёр і драматург стварылі і своеасаблівы вобраз, партрэт народа ў сённяшняй сітуацыі. Жорсткі фантасмагарычны партрэт. Сам ужо архетып "балота" гаворыць пра многае. Варта зазірнуць у таямніцы беларускага фальклору і ... Ды толькі ізноў жа справа нават не ў выбары пэўнага вобраза з багацейшага на змест арсенала беларускага фальклору. Справа хутчэй у рэаліях, у дні сённяшнім. Жыццё наша — балота. Самае што ні ёсць балота. І вось ад чаго і крычаць хочацца, і плакаць, і смяяцца... "Паехалі!" — і ёсць спектакль-крык. Ці пачуем?..*


Мікалай Захарэнка

**Мікалай Захарэнка:**

— Наш спектакль адметны ўсё ж тым, што мы імкнемся даказаць: пошук свята ідзе ад здароў'я нацыі. Шкада, што не заўсёды, на вялікі жаль, рэаліі быцця дазваляюць у пошуку свята выйсці на пазітыўны плён. "Паехалі!" — шматпавярховая п'еса. Ідучы па лесвіцы ад аднаго паверха да другога, неўпрыкмет становішся сведкам, як дзеецца сапраўдная энтрапія, як дзеецца разбурэнне гармоніі, пераўтварэнне яе ў хаос. Як адбываецца разбурэнне свядомасці.

*Усё як у жыцці, тэатры. Ці здольныя мы нешта выправіць? Дакуль яе актуальнай будзе заставацца п'еса "Паехалі!", характар якой і рэжысёр, і драматург у адзін голас вызначаюць як гісторыя пра здароў'е нацыі, якая даўно і сур'ёзна хварэе? І канешне ж, не толькі на п'янства...*

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

ПОСТАЦІ

# У МЕДЗЯРЫЦЕ — АБ'ЁМНЫ СВЕТ

Дзень беларускага пісьменства і друку — яшчэ адна мажлівасць згадаць добрым словам тых, хто ў розны час спрычыніўся да выдання кніг. На жаль, і ў дадзеным выпадку мы памятаем далёка не кожнага. Калі, скажам, імёны Францыска Скарыны, Васіля Цяпінскага, Спірыдона Собаля, Сымона Буднага, Пятра Мсціслаўца сёння на слыху ці не ў кожнага беларуса, хто не цураецца сваіх каранёў, дык, напрыклад, пра Аляксандра Тарасевіча болей ведаюць хіба спецыялісты. А ён, між іншым, адзін з самых выдатных нашых афармляльнікаў кнігі. Пра яго сёння слова...

На іншых таксама можна разлічваць, памочнікі ніколі не лішнія, але куды лепей, калі пачатую справу да канца сам давядзеш. Тарасевіч даўно ў гэтым пераканаўся, таму, калі крыху, як кажуць, на ногі стаў, некаторы дастатак займеў, вырашыў адкрыць уласную друкарню. Памяшканне прыдбаў у цэнтры Глуска. Не такое і вялікае, аднак месца хапіла, каб і друкарскі станок паставіць, і розныя прыстасаванні, без якіх не абысціся ў гравіраванні, размясціць. Асноўная ж прафесія яго — гравёр, а асноўнае прызванне — медзярыт. Працей кажучы — гравюрам на медзі перавагу аддае. Цяжкая гэта работа, карпатлівая. І не толькі таленту, як і любая творчая праца патрабуе, а і настойлівасці, цярплівасці доўгімі гадзінамі, не спяшаючыся, не ведаючы стомы, карпець над меднай пласцінай, пакуль на ёй не атрымаецца жаданая выява.

Спачатку Тарасевіч старанна падбірае дошку. Чалавек недасведчаны можа падумаць, што гэта звычайны кавалак драўніны. Але на прафесійнай мове акурат так і называецца медны ліст. Яго неабходна выраўняць, старанна адпаліраваць. Падрыхтаваць тым самым участак для будучай работы. Пасля гэтага не абысціся без разца — у Тарасевіча ён не адзін, не два, а цэлы набор. Самых розных — і тонкіх, і больш тоўстых, і з прамым канцом, і з выгнутым. Ёсць нават такія, што па форме ледзь не звычайнае шыла нагадваюць. Яны вельмі зручныя, калі ўзнікае патрэба рабіць ледзь прыкметныя лініі, штрыхі, што на адбітку будуць глядзецца як сетка. Разцы з крыху акруглым канцом падыходзяць для стварэння аб'ёмнага малюнка, у якім шмат прасторы, не заштрыхаванага месца, таму і трэба зрабіць нямала паглыбленняў. Медзярыт жа па сваёй форме, як правіла, пукаты. Значыць, калі з яго пачнуць рабіць адбітак, так званыя "ўпадзіны" запоўняцца фарбай, а пукатасці застануцца чыстымі.

Тарасевіч да таго набіў руку, што можа працаваць над медзярытам па памяці, сюжэт свабодна трымае ў галаве. Праўда, як толькі пачынаў, некаторы час не абыходзіўся без папярэдніх накідаў на паперы. Калі разабрацца, дык гэтак прасцей працаваць. Кінуўшы позірк на малюнак, можна праверыць, ці не схібіў у чым-небудзь. Але то даўно было, цяпер у паперы неабходнасць адпала. Важна толькі, каб разцы былі найлепей заточаны. А яны ў Аляксандра заўсёды ў гатоўнасці. Ды і не падвядуць. Калі заказваў іх, сам прасачыў, каб і сталь цвёрдую ўзялі, і адшліфавалі як мага лепш. Ды і сваю руку прыклаў. Не ўтрымаўся — не толькі парады даваў, а і дапамагаў даводзіць да ладу. Затое цяпер упэўнены, які складаны сюжэт не ўзнаўляеш, можна спадзявацца, што ўсё атрымаецца належным чынам.

Не адмаўляецца часам Тарасевіч і ад афорта. Тады малюнак на той пласціне атрымліваецца не пукаты, а паглыблены. Праз уздзеянне розных хімічных рэактываў. На цынкавую або медную дошку загадзя наносіцца лак, які здатны вытрымаць уздзеянне азотнай кіслаты. Сам гравёр яго і рыхтуе. У адпаведных прапорцыях змешвае асфальт, воск і каніфоль. Калі нанесены слой падсыхае, на ім спецыяльнымі іголкамі наносіцца малюнак. Там, дзе праводзіцца штрых, лак агаляецца. А калі пласціна з малюнкам апускаецца ў кіслату, адбываецца "траўленне". На месцы штрыхоў з'яўляюцца ледзь прыкметныя паглыбленні. А затым ужо, як з медзярыту, робяцца адбіткі.

Каму што з гравёраў падабаецца. Адны аддаюць перавагу медзярыту, другія — афорту, лічачы, што над ім працаваць лягчэй, а ў нечым і прасцей. Тарасевіч таксама ўпадабаў медзярыт, рэдка здраджвае яму. Не надта схільны да афорта з-за той жа, няхай і падманлівай, лёгкасці. Мяркуе, што сапраўдны творца толькі тады ім застанецца, калі нечага значнага дасягае праз пакутлівую працу, а не шукаючы лёгкіх шляхоў.

Як і многія да яго, Тарасевіч спачатку аддаваў перавагу евангельскім сюжэтам, а затым паступова ўпэўніўся, што гэта ў многім абмяжоўвае памкненні мастака, звужае іх. Таму перайшоў да свецкіх кампазіцый. А медзярыт і дазваляе ствараць цікавыя гравюры, у якіх паказаны чалавек у паўсядзённасці, адлюстраваны яго побыт, узноўлена навакольная прырода. Перадаць жа ўсе гэтыя рэаліі лёгка праз так званую перакрыжаваную штрыхоўку, багатую танальнасць, умела перадаючы святлацені і паўтаны.

Асобныя працы Тарасевіч і друкаваў у Глуску, на станку, які размяшчаўся поруч з яго ж медзярытнай майстэрняй. І заўсёды не забываўся зрабіць адпаведны подпіс. Указаць аўтарства, назваць год стварэння. Гэта і аказала неацэнную паслугу даследчыкам, якія ўзяліся за асэнсаванне шляху яшчэ аднаго з таленавітых людзей, чыя творчасць фарміравалася на Беларусі.

Калі быць справядлівым, гравюры Тарасевіча мастацтвазнаўцы ведалі яшчэ ў першай палове XIX ст. Прынамсі, яго прозвішча (не трэба блытаць з Лявонціем Тарасевічам) можна сустрэць у розных даведніках, што выходзілі ў Вільні, Познані, Дрэздэне, Кракаве, Варшаве. Але, як нярэдка бывае, нават тое, што фактычна знаходзіцца на

Вялікага княства Літоўскага. А што афармляў яго Тарасевіч, сумнявацца не даводзіцца. На ніжняй рамцы тытульнага аркуша можна прачытаць тэкст па-лацінску, што ў перакладзе на беларускую мову гучыць: "Аляксандр Тарасевіч гравіраваў года 1672 у Глуску". Адштурхоўваючыся ад часу выхаду кнігі, няцяжка здагадацца, што праца гэтая заняла ў яго каля пяці гадоў. Ці, у крайнім выпадку, крыху менш, бо медзярыты з Глуску трэба было яшчэ даставіць не ў такі і блізкі Аўгсбург. А там справу з выданнем доўга не зацягвалі, — раней працавалі куды больш аператыўна, чым цяпер. Надпісы ж пад медзярытамі, а таксама аналагічныя сведчанні пад некаторымі іншымі творамі Тарасевіча, дзе нязменна згадваецца Глуск, далі падставу даследчыкам прыйсці да думкі, што ў Глуску майстар і нарадзіўся. А маючы там уласную друкарню, і абсталяваўся там надзейна.

Валодаў Тарасевіч талентам...Ды яшчэ якім! Ілюстрацыі да малітоўніка выкананы па-майстэрску. Усе 40 работ у тэхніцы так званага разцовага медзярыту вылучаюцца здзіўляючай дасканаласцю, вытанчанасцю ліній, кампазіцыйнай прадуманасцю і цэласнасцю. Безумоўна, як і вымагаў жанр выдання, не абышлося і без евангельскіх сюжэтаў, што адчуваецца ўжо на тытуле. На ім у цэнтры архітэктурнай брамы паказана на аблоках маладая жанчына. Ля ног яе — месяц, а ў руках вялікая "га-






паверхні, з цягам часу забываецца. Падобнае сталася і з Аляксандрам Тарасевічам. Чарговы раз вяртаць з небыцця яго імя давялося ўжо нашым сучаснікам. Першым зацікавіўся жыццём і творчым лёсам таленавітага гравёра, найбольш вядомага прадстаўніка станковай графікі і мастака кнігі другой паловы XVII — пачатку XVIII ст., які мае дачыненне не толькі да гісторыі беларускага выяўленчага мастацтва, украінскі даследчык Д.Сцепавік. У 1970 годзе ён абараніў кандыдацкую дысертацыю "Творчасць Аляксандра-Антонія Тарасевіча", а ў 1975 годзе выдаў у Кіеве кнігу "Аляксандр Тарасевіч". З беларускіх мастацтвазнаўцаў тут нямала папрацаваў В.Шматаў. А штуршок пошукам навукоўцаў, новым даследаванням даў не хто іншы, а сам Тарасевіч. Калі ж дакладней, то кніга "Малітвы і службы маці Боскай Марыі" выпушчаная ў 1677 годзе ў Аўгсбургу (Баварыя), адзін экземпляр якой захоўваецца ў бібліятэцы Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта (Літва). Дарэчы, пазней згаданы "Разарыум" быў перавыдадзены ў Вільні.

"Разарыум..." — не што іншае, як звычайны малітоўнік маршалка

ліна жыцця". Поруч з жанчынай яшчэ 15 фігур. Паабапал яе — апосталы Павел і Пётр, у чатырох кутках тытула сядзяць евангелісты Матфей, Марка, Іаан і Лука.

Ідучы ад знаёмых матываў, Тарасевіч, аднак, не абмяжоўваў сябе рамкамі зададзенасці. Гэта быў мастак, які мысліў па-сапраўднаму творча, таму і дазваляў сабе адыход ад традыцыйнага. Нават знаёмыя постаці паказаны зусім не статычнымі. Дае аб сабе знаць тая пластыка чалавечага цела, што дазваляе ўспрымаць іх не святымі, а жывымі людзьмі. Не абыходзіў Тарасевіч і нацыянальныя традыцыі. Напрыклад, калі ўважлівей угледзецца ў постаці таго ж Паўла і Пятра, лёгка заўважыць падобнасць іх выяў да аналагічных адлюстраванняў у беларускіх драўляных скульптурах гэтага ж перыяду. Слушную думку выказаў В.Шматаў: "Калі б у "Разарыуме" быў толькі тытул, то і тады мы мелі б права гаварыць пра гэтае выданне як пра бліскучы ўзор кніжнага мастацтва XVII ст. Але тут яшчэ змешчаныя 40 гравіраваных на медзі ілюстрацый".

Сярод гэтых ілюстрацый пераважная большасць (больш за трэць) таксама ў той ці іншай ступені звязаны з рэлігійнымі матывамі і гэтаксама вызначаюцца прадуманасцю аўтарскай задумы, яе значнасцю, дасканаласцю і непаўторнасцю ўвасаблення. Тым не менш усё ж не яны дазваляюць успрымаць Тарасевіча як арыгінальнага графіка, а 12 твораў, аб'яднаных у серыю "Поры года". Прынамсі, пад такой назвай яны і прапісаліся трывала ў гісторыі мастацтва. Менавіта схільнасць да рэалістычнай манеры пісьма адкрыла ў Тарасевіча мастака, якому было па сіле парваць з царкоўнай схаластыкай, стаць на шлях праўдзівага паказу жыцця простага народа.

Каляндарны цыкл адлюстроўвае жыццё сялян на працягу ўсіх месяцаў. Кожная чарговая гравюра, існуючы і самастойна, тым не менш унутрана звязана з папярэдняй, бо за паказаным паўстае побыт беларуса, які раскрываецца і сваёй душой праз звыклую для яго справу. А яна ж, несумненна, звязана са штодзённым заняткам на зямлі. Праходзіць тыдзень за тыднем, месяц за месяцам мінаецца, а селянін ніколі не гуляе, заўсёды пры справе. Кожны твор адлюстроўвае занятак таго, хто не толькі аб уласным хлебе дбае, а клапоціцца, каб і іншых пракарміць.

Жывучы ў Глуску, Тарасевіч пасылаў свае творы не толькі ў Аўгсбург, а і ў іншыя гарады, дзе на той час плённа развівалася выдавецкая справа. Кнігі з яго ілюстрацыямі выходзілі таксама ў Кракаве, Слуцку, Замосці... У Вільні ж яму давялося некаторы час і жыць. А вось калі пераехаў туды, сказаць цяжка. Звычайна сцвярджаецца, што гэта было ў 1680-я гады. На той час Тарасевіч ужо меў важкія мастакоўскія набыткі. І не толькі "Разарыум..." (1675) і "Рацыянальная філасофія" (1683).

У гісторыю мастацтва Тарасевіч увайшоў і як выдатны майстра партрэта. З твораў, зробленых у гэтым жанры, вылучаецца выява мінскага харунжага Казіміра Клакоцкага. На той час Тарасевіч жыў у Вільні і атрымаў заказ са слуцкай друкарні. Партрэт Клакоцкага быў змешчаны ў адной з кніг, што выйшла ў 1685 годзе. Клакоцкі вядомы і тым, што пераклаў кнігі "Манархія турэцкая" П.Рыко. У Тарасевіча атрымаўся не проста партрэт, а партрэт-эпітафія.

Дарэчы, яшчэ ў 1677 годзе, калі жыў у Глуску, Тарасевіч выканаў партрэт архідыякана М.Слупскага. Гэтым разам яму ўдалося цалкам вырвацца з палону канфесійных канонаў. Тарасевіч паўстаў рэалістам, які дасягае псіхалагічнай заглыбленасці вобраза, знаходзіць тыя важныя штрыхі, дзякуючы якім выява чалавека становіцца зямной, пазбаўляецца непатрэбнай "трыумфальнасці". І ўвогуле, жанр партрэта вабіў яго не менш, чым афармленне кніг. Усяго выяўлена каля 100 твораў Тарасевіча, і ў гэтым зборы партрэт займае далёка не апошняе месца, хоць, праўда, тут ён дасягнуў аднолькавага поспеху. Нешта ўдалося лепш, штосьці — горш, толькі асобныя работы засведчылі аб яркай мастакоўскай індывідуальнасці творцы. Як, напрыклад, партрэт Яна III Сабескага, выкананы ў 1680 годзе, калі Тарасевіч жыў яшчэ ў Вільні. Між іншым, нямала часу. Прынамсі, ёсць некаторыя яго віленскія работы, якія датуюцца 1686 годам.

З Вільні Тарасевіч, відаць, і перабраўся ў Кіеў. Толькі калі? Першыя яго кіеўскія работы пазначаны 1690 годам. Значыць, пераезд адбыўся незадоўга да гэтага. Але ў Кіеў ён сабраўся не адразу, а заязджаў у Маскву.

Нядаўна маскоўскай даследчыцы М.Аляксеевай удалося ўстанавіць, што ў Маскву разам з ахтырскім палкоўнікам Іванам Перахрэстам прыехаў нехта Тарасевіч. На жаль, у знойдзеных дакументах імя яго не ўказана, таму лёгка выказаць меркаванне, што гэта быў Лявонцій Тарасевіч. Тым больш што яго ў Маскве добра ведалі і там ён выконваў партрэты рускай царэўны Соф'і і іншых уплывовых асоб. Але ж не будзем забываць, у Варшаўскай нацыянальнай бібліятэцы захоўваецца партрэт таго ж Івана Перахрэста і аўтарства работы ніякага сумнення не выклікае. Занатаваў выяву ахтырскага палкоўніка не хто іншы, а менавіта Аляксандр Тарасевіч. Пазначыў і дату: 1689 год. Зусім апраўдана, што мог заехаць разам з Перахрэстам у Маскву. Нельга не пагадзіцца з думкай М.Аляксеевай, што ў сталіцы Тарасевіч мог затрымацца. Менавіта там ім былі выкананы партрэт В.Галіцына, асобныя гравюры, якія падпісаны манаграмай "А.Т.".

З Масквы і ляжаў шлях Тарасевіча ў Кіеў. Адна з прычын пераезду з Вільні была ў тым, што мастак належаў да праваслаўных, а таму праследаваўся з боку езуітаў. На Украіне адчуваў сябе куды больш спакойна. А ехаў не з пустымі рукамі. Вёз з сабой друкарскі станок, розныя прылады, што неабходны ў гравіраванні. Не мог не ведаць, што медзярыт на Украіне на той час яшчэ не быў распаўсюджаны, значыць, хацеў падзяліцца майстэрствам.

Д.Сцепавік выказвае меркаванне, што Тарасевіч яшчэ ў Вільні стварыў сваю школу, у якой выхоўваў таленавітых вучняў. У Кіеве ж гэтую традыцыю працягваў. Тым не менш, паступова адыходзіў ад свецкага жыцця. Пастрыгся ў манахі, прыняўшы новае імя Антоній. Так і жыў, можна сказаць, бязвыездна, калі не лічыць кароткачасовае наведванне ў 1715 годзе Пецярбурга.

Памёр Тарасевіч прыкладна ў 1730 годзе, яго справу прадоўжылі наступнікі. Найбольш таленавітым вучнем даследчыкі лічаць Лявонція Тарасевіча — хутчэй за ўсё малодшага брата Аляксандра. Лявонцій таксама вучыўся ў Аўгсбургу, у Кіліянаў, а ў 80-я гады XVII стагоддзя пераехаў на Украіну, дзе і дасягнуў свайго найбольшага майстэрства. А вось Аляксандру Тарасевічу найбольш плённа працавалася на радзіме, і найперш у родным Глуску.

А 40 медзярытаў да кнігі "Малітвы і службы маці боскай Марыі", несумненна, нацыянальны шэдэўр. Невялікія памерам творы (усяго 7 на 11,5 см) — той вялікі і аб'ёмны свет, у якім месціцца так шмат, што пры кожным чарговым далучэнні да яго атрымліваеш новую асалоду і задавальненне, працягваючы здзіўляцца магчымасці чалавечага таленту.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*На рэпрадукцыях:*

*1. А.Тарасевіч. "Сакавік". Ілюстрацыя да "Разарыума..." 1672—1677.*

*2. А.Тарасевіч. Тытул "Разарыума..." 1672.*

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# Граф Аляксандр ПРУШЫНСКІ: "КАЛІ Я ХАЧУ ДАПАМАГЧЫ БЕЛАРУСІ, ТО Я НЕ ЧУЖЫНЕЦ"



***Граф Аляксандр Прушынскі — чалавек на Беларусі вядомы. У свой час ён удзельнічаў нават (ці, хутчэй, спрабаваў удзельнічаць) у прэзідэнцкіх выбарах, хаця і не з'яўляецца грамадзянінам Беларусі. Ужо адна толькі гэта акалічнасць вымушае праяўляць пастаянную цікавасць да асобы графа Прушынскага. З ім — наш дыялог.***



Маргарэт Тэтчэр — адна з самых папулярных палітыкаў у свеце, а таксама і ў нас на Беларусі. Да яе вобраза звяртаюцца і многія мастакі, у прыватнасці, Уладзімір Мельнікаў — выкладчык школы № 14 г. Ліды. На выставе, якая доўжылася з 28 снежня м.г. па 19 студзеня г.г. у Палацы мастацтва, наш фотакарэспандэнт Генадзь Жынкоў зрабіў здымак рэдактара Я.Фядзюшына, які рыхтаваў рэпартаж аб выставе (глядзі "Культуру" № 4 ад 25 студзеня г.г.), а супрацоўнікі рэдакцыі дапоўнілі яго вершаванымі радкамі, якія за 9 месяцаў так і не страцілі свайго актуальнага зместу. І, здаецца, не хутка страцяць...

*ЛЯ ПАРТРЭТА М.ТЭТЧЭР*

Не жыццё, а суцэльная "лажа" —
І куды нас кіруюць "вожди"?
Можа, Маргарэт Тэтчэр
"па блату" падкажа,
Як да рынку, урэшце, дайсці...

**— Спадар Аляксандр, чаму ж усё-ткі Вы так апякуецеся палітычнымі справамі на Беларусі? Чаму не займаецеся палітыкай у краінах больш прэстыжных? Напрыклад, ЗША, Канадзе ці на крайні выпадак — у Польшчы?**

— Калі б мой двор, мой радавы маёнтак быў у Беластоцкім ваяводстве, то, канешне ж, я быў бы там. Але ж мая радзіма — Беларусь. Мой палац — у Заходняй Беларусі. Таму я і працую на карысць гэтай, сваёй Айчыны. Калі я хачу дапамагчы Беларусі, то я не чужынец.

Слугі народа — і камуністы, і дэмакраты — баяцца мяне. Я сумленны чалавек, я — гаспадар. Жыву ў Мінску і толькі трачу грошы, не займаюся ніякім бізнесам. Мне цікава займаць палітыкай, клапаціцца пра людзей.

**— Калі гаварыць пра мінулыя прэзідэнцкія выбары, то фактычна Вы прайгралі, паколькі Ваша прозвішча не згадвалася нават у бюлетэнях выбаршчыкаў...**

— Вы памыляецеся. Я не прайграў, наадварот — выйграў, таму што ў мяне яшчэ ўсё наперадзе: Цяжэй таму, хто трымае зараз уладу ў сваіх руках, хто павінен адказваць. Пытанне заключаецца ў тым, што, калі будзе народу жыць горш і горш, то няхай тады прыйдзе той, хто зможа выправіць сітуацыю, хто зможа нешта зрабіць.

**— І ўсё ж Вы крыху здзіўляеце сваёй апантанасцю. У Вас няма беларускага грамадзянства — значыць, няма ўжо і шанцу на перамогу. А Вы як займаліся палітыкай, так і працягваеце займацца...**

— Прывяду прыклад. У Літве, Латвіі, Польшчы ў прэзідэнцкіх выбарах таксама ўдзельнічалі эмігранты, замежныя суайчыннікі. У адрозненне ад Беларусі законы былі для іх больш лаяльныя. Але ж ніводзін з замежных суродзічаў у тых краінах не перамог. І зараз тыя людзі раптоўна зніклі з палітычнай арэны. Дзе яны?.. Чаму яны не працуюць на сваю Айчыну ў іншай, няхай сабе і не прэзідэнцкай, ролі? Я ж застаўся на Беларусі, з Беларуссю. Мае рэчы — у Мінску. Мая бібліятэка ў Мінску.

**— Калі Вам усё ж удасца вылучыць сваю кандыдатуру на наступныя прэзідэнцкія выбары, то, на Ваш погляд, хто будзе галасаваць за графа Прушынскага?**

— Веру, што за мяне прагаласуюць неабходныя 52 працэнты. Але ж я не хачу быць прэзідэнтам асобнай сацыяльнай ці ўзроставай групы. Хачу быць прэзідэнтам як выбраннікам усяго народа. Так і ў нацыянальным плане. Я ў аднолькавай ступені добра стаўлюся да рускіх, беларусаў, палякаў.

Усе, увесь народ — кіраўнікі прэзідэнта. Ён, прэзідэнт, падначалены ўсіх, а не начальнік. У гэтым — мая філасофія.

**— А ці ўпэўнены Вы, спадар Аляксандр, што ведаеце Беларусь, што пражылі тут дастаткова, каб быць выказнікам усенародных інтарэсаў?**

— Канешне ж, прэзідэнту трэба ведаць шмат, быць гатовым у аднолькавай ступені граматна прымаць рашэнні ў дачыненні і моладзі, і пенсіянераў. Кожны дзень майго жыцця — школа. Я вучуся на Беларусі, вучуся ў Беларусі і яе грамадзян.

Нядаўні прыклад — мая паездка ў турму. Здзіўлены і заклапочаны ростам злачыннасці ў краіне. Як, між іншым, здзіўлены, што толькі на дзесятую долю працэнта забяспечаны працай зняволеныя. Калі ж яны не працуюць, то пра якое выхаванне можа ісці размова?..

**— Але ж не працуюць і на волі. Таму, пэўна, і адбываецца рост злачыннасці. А яшчэ, магчыма, і таму, што Беларусь знаходзіцца пад велізарнейшым уплывам масавай культуры...**

— І сапраўды. Дзіву даюся, як лёгка беларусы адмаўляюцца ад сваіх прыярытэтаў. І ў сферы культуры — ці не ў першую чаргу. Людзі могуць быць уражаны чужаземным. Людзі ў захапленні выказваюцца ці не з любой нагоды: "Ах, амерыканскае... Ах, рускае... Ах, польскае..." А першачаргова трэба рупіцца пра сваё. Пра беларускае кіно. Пра беларускае выяўленчае мастацтва. Пра беларускі тэатр.

**— Спадар Аляксандр, сённяшняя сітуацыя прымушае, падштурхоўвае задаць і такое пытанне. Як Вы лічыце, няўжо прыйдзе на Беларусь капіталізм?**

— Я асабіста веру, што на Беларусі будзе пабудаваны капіталізм. І што самае цікавае, камунізму прыйсці не дадуць якраз былыя слугі народа. Яны толькі тут умеюць зарабляць грошы. Яны ніколі не паедуць на Захад, а будуць ствараць для сябе добрае жыццё тут. І дапамагаць колішнім слугам народа будуць іх жонкі. Яны будуць дамагацца стабілізацыі ў эканоміцы.

**— Як Вы ставіцеся да свабоды друку, да апазіцыйных уладзе выданняў?**

— На гэты конт ёсць цікавы гістарычны прыклад. Кажуць, што ў свой час расійскі імператар інкогніта падтрымліваў "Колокол". Навошта? А толькі дзеля таго, каб з дапамогаю вострага праўдзівага выдання адкрыць вочы на праўду, каб ведаць, што ж на самай справе дзеецца ў Расіі.

**— Дзякуй за гутарку. Жадаю Вам і надалей гэткага ж палітычнага імпэту, старання на карысць Беларусі.**

Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ
Фота Генадзя ЖЫНКОВА

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік — Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: 76-94-66

Галоўны рэдактар — Алег КАМІНСКІ

Рэдакцыйная калегія:
Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Алесь КАРЛЮКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©
Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 5000
Замова 3759
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.